ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

10 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. № 41/4227

***Таіса БОНДАР: "Мы — не "homo belorusikos", а Божай ласкаю — б е л а р у с ы , горды славянскі народ, для мяне гэта відочна."***

2-3



***У мінскім Доме дружбы прайшла прэзентацыя часопіса "Всемирная литература" — спецыяльнага нумара, прымеркаванага да 54-й гадавіны ўтварэння КНР.***

12





# "АНАСТАСІЯ СЛУЦКАЯ" ЕДЗЕ Ў БРЭСТ

Заўтра ў Брэсце распачнецца IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў. Адкрыецца славуты фэст найноўшай беларускай стужкай "Анастасія Слуцкая", героі якой будуць размаўляць на беларускай мове (толькі некалькі тыдняў таму ў Міністэрстве культуры РБ быў падпісаны акт аб заканчэнні вытворчасці беларускамоўнай копіі мастацкага фільма "Анастасія Слуцкая", аўтарам перакладу якой выступіла загадчыца літаратурнай часткі Купалаўскага тэатра М. Бартніцкая). Нагадаем, што Гран-пры фестывалю "Крыштальны бусел" будзе ўручаны фільму, у якім лепш за ўсіх будзе ўвасоблена нацыянальная тэма.

# КОЛА ДЗЁН

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў удзел у рэспубліканскім фестывалі-кірмашы "Дажынкі—2003" у Пружанах. У працяг існуючай традыцыі ў ходзе фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі Аляксандр Лукашэнка асабіста павіншаваў і ўзнагародзіў пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва, якія занялі ў гэтым годзе першыя месцы. Ганаровы дыплом і ключы**




**ад легкавых аўтамабіляў кіраўнік дзяржавы ўручыў сямі старшым камбайнерам і шасці старшым камбайнерам маладзёжных экіпажаў, якія дабіліся самых лепшых паказчыкаў у час уборкі збожжавых і зернебабовых культур. Ганаровымі дыпломамі і грашовымі прэміямі адзначаны перадавыя раёны і вобласці.**

### *ШЛЯХ ТЫДНЯ*

Напрыканцы верасня прайшла гісторыка-культурная акцыя "Шлях Перамогі: Хоцімск—Мінск". Хоцімская зямля стала адным з першых раёнаў, адкуль у 1943 годзе пачалося вызваленне Беларусі ад фашысцкіх акупантаў. Акцыя "Шлях Перамогі" аб'ядноўвае розныя пакаленні, сімвалізуючы сувязь мінулага, сучаснага і будучага. Кіраўнік дзяржавы, накіроўваючы прывітанне ўдзельнікам "Шляху Перамогі", выказаў пажаданне, каб гэта мерапрыемства стала добрым пачаткам усенародных урачыстасцяў, прысвечаных дзвюм знамянальным датам — 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзю Вялікай Перамогі.

### *СВЯТА ТЫДНЯ*

5 кастрычніка ў нашай краіне было свята — Дзень настаўніка.

### *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

Праект новай рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" павінен быць цэласным, празрыстым, сучасным, вычарпальным і ўсёабдымным дакументам, закліканым улічваць сённяшнія рэаліі, запоўніць існуючыя прабелы ў адпаведным заканадаўстве і ахопліваць усю сферу дзейнасці СМІ. Такую задачу паставіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 2 кастрычніка па выніках нарады па праекце Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Прэзідэнт краіны даручыў у самыя кароткія тэрміны дапрацаваць праект новай рэдакцыі Закона "Аб сродках масавай інфармацыі" і прадставіць на разгляд у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Закон павінен разумна спалучаць свабоду і адказнасць за кожнае слова, лічыць беларускі лідэр.

### *ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ*

Завяршыўся адзін з самых грандыёзных праектаў Нацыянальнага мастацкага музея — "Шэдэўры Траццякоўскай галерэі". Выставу наведалі 130 тысяч чалавек, альбо кожны сёмы жыхар нашай краіны.

### *ЗАСНАВАННЕ ТЫДНЯ*

Беларускі Рэспубліканскі Саюз Моладзі заснаваў прэмію ў галіне літаратуры і журналістыкі. Прэмія будзе прысуджана пісьменнікам і журналістам, якія ў сваіх творах аб'ектыўна адлюстроўваюць праблемы моладзі і грамадскіх арганізацый у сучасным грамадстве.

### *ПЛАНЫ ТЫДНЯ*

У нашай краіне ў бліжэйшыя гады не плануецца будаўніцтва атамнай электрастанцыі — паведаміў для СМІ намеснік міністра энергетыкі А. Сівак. У той жа час ён лічыць, што пытанне будаўніцтва АЭС у Беларусі можа стаць актуальным праз 3—5 гадоў.

## ЯШЧЭ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА!

Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" ніколі не позна падпісацца. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў, на 2 месяцы — 5000 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў, на 2 месяцы — 8000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.

ТРЫБУНА ПІСЬМЕННІКА

# МЫ — БЕЛАРУСЫ ЦІ «HOMO BELORUSIKOS»?

Тое, што сёння ў сферы культуры і асабліва ў сродках масавай інфармацыі часта "правят бал" недавучкі, упэўненыя і ў сваёй недатыкальнасці (як жа, чацвёртая ўлада!), і ў сваім праве да месца і не да месца выказваць свае "непрычасаныя" думкі і нічым, апроч уласнай амбіцыі, не абгрунтаваныя меркаванні, не патрабуе доказаў. Доказы, як кажуць, навідавоку — на старонках любога выдання, любой газеты, вось толькі заўважаць іх, а тым больш спрабаваць аспрэчваць выказанае чарговым "вучыцелем" ахвотнікаў не знаходзіцца. І калі што ўсур'ёз засмучае, то якраз гэта: ну, няхай сярод тых, хто ўласнаручна прыпісаў сябе да нацыянальнай інтэлігенцыі, да яе эліты, пануюць скепсіс і няверʼе ў свой народ, а дзе армія настаўнікаў, вучоных? Адкуль, калі не проста абмяркоўваецца, а выпрацоўваецца ідэалогія беларускай дзяржавы, калі, як адзначыў Прэзідэнт краіны, новы Закон аб СМІ павінен гарантаваць менавіта свабоду слова, а не свабоду паклёпу і тэндэнцыйнага выкладання фактаў, такая заспакоенасць сярод "власть предержащих"? Чаму, калі адкрыта абражаецца народ, маўчаць пісьменнікі?

Вы скажаце: згушчаю фарбы... Каб жа! Калі ўважліва пачытаць ці нават проста ўважліва прагледзець хоць бы дзесятак выданняў (з ледзь не дзвюх тысяч, што на сённяшні дзень выходзяць у краіне), то карціна (а гэта ж не проста карціна, а своеасаблівы партрэт нацыі!) паўстае не тое што нярадасная, жахлівая: п'ём, гуляем, крадзем, з узыхамі ўзгадваем даброты савецкага часу, пастаўляем Еўропе рабынь сексу ці, у лепшым выпадку, "свое персональное и национальное возрождение ждем так, как люди на остановках ждут показавшийся из-за угла троллейбус". Апошняе працытавала па артыкуле Барыса Ляпёшкі з "Советской Белоруссии" за 4 кастрычніка гэтага года, які вялізнымі літарамі загалоўка заклікае: "В море жизни нужно учиться плавать". Ён, гэты артыкул, і змусіў узяцца за пяро: што адбываецца, калі дзяржаўнае выданне (і не проста дзяржаўнае, а цэнтральнае ў дзяржаве, на падтрымку якога скіраваны немалы адміністратыўны рэсурс) прапаведуе г э т к а е "прочтение развития национально-освободительной мысли"?! Якое г э т к а е, спытаеце? Зазірніце і зразумееце: усёабдымнае — ад пірамід егіпецкіх фараонаў, якіх "мы на своей земле не построили", да сучаснай Еўропы, якая "в каком-то смысле выступила в роли коллективного Лопахина, распахивающего, за неимением вишневых садов, наши картофельные поля".

Аўтар, і на міг не задумваючыся, выдае адну "філасофскую ісціну" за другой, агаломшваючы сваёй нахабнай недасведчанасцю не спакваля, а с ходу, з першых радкоў, з якіх вынікае, што калі сусветнае "памкненне ўгору азначала рух да сонца, а значыць, да жыцця" то ("так уж получилось"!) нас, беларусаў, усё больш "цягнула не ўгору, а ўніз, да зямлі". Здавалася б, ну, цягнула і цягнула! Дык жа не. Не ўсё, па аўтару, так проста. Прычынай таго, што прыцягвае беларуса (ці, як прыемней аўтару называць, "homo belarusikos") родная зямелька, з'яўляецца, аказваецца, "вековое понимание въевшейся в кровь аксиомы: чем ниже сидишь, тем легче падать". Нават не засяроджваючыся на літаратурных вартасцях выказвання "въевшейся в кровь аксиомы" (бр—рр!) і тут жа прыведзенага аўтарам тлумачэння: "Может, потому что падали часто?", хочацца адгарнуць колькі старонак назад і яшчэ раз пераканацца, што ў руках газета "Советская Белоруссия", а не якая-небудзь бульварная газецёнка, — прачытаны толькі першы абзац, а ў душы ўжо збуджана крыўда і за народ, і за дзяржаву, і за "великий русский язык", якім так няўмела

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

# МАЯ ІДЭАЛОГІЯ — ЛЮБІЦЬ УСІМ СЭРЦАМ АЙЧЫНУ

Нарадзіўся я на беразе Нёмана, *ля вытокаў яго, на Уздзеншчыне*, на землях былых магнатаў Радзівілаў і лясных масіваў паноў Чапскіх, бегаў басанож па пагорках старажытнага замчышча, дзе ў 1235 годзе скрыжоўвалі мячы і пікі, пускалі ў ход вілы ды дубіны мае продкі са сваімі ворагамі, збіраў баравікі ў луцавіцкім хвойніку, які пасадзілі на арандаваных Пясках дзяды Янкі Купалы (Луцэвічы), сустракаўся на беразе Нёмана і ў грыбных барах з землякамі і, магчыма, з родзічамі Якуба Коласа (Міцкевічамі), вучыўся ў вёсцы пісьменніка Алеся Пальчэўскага, нарадзіўся ў хаце пісьменніка Ільі Гурскага, жыў побач з сястрой пісьменніка Адама Русака і бачыўся, вядома, з ім не раз. Вось на якой знакамітай мясціне знаходзіцца мая родная вёска Замосце. Маё дзяцінства і юнацтва праходзілі на прасторах, авеяных славай гераічнай барацьбы маіх продкаў, браткоў-беларусаў. Тут за апошняе тысячагоддзе барукаліся розных масцей князі і князькі, далёкія татарскія заваёўнікі, тэўтонскія рыцары, шведскія, французскія, кайзераўскія, белапольскія, гітлераўскія шакалы. З усімі імі змагаліся на берагах Нёмана, на замчышчы мае продкі і перамагалі. Іх запаветы і наказы нашчадкам былі цвёрдыя, неаспрэчныя і дужа зразумелыя: "Хто з мячом да нас прыйдзе, ад мяча і загіне". Гэта была ідэалогія маіх дзядоў, дзядоў маіх землякоў, дзядоў суседніх вёсак і пасяленняў беларускай зямлі. Яна перадавалася ад пакалення да пакалення, дайшла і да мяне, пасялілася ў маім сэрцы, у маёй галаве, завалодала маімі думкамі і пачуццямі, давала надзею і сілу, гонар і мужнасць, гераізм і бясстрашша. Ды не толькі мне, а ўсім маім аднагодкам, землякам. Калі на Захадзе з'явілася другая ідэалогія ў галаве звар'яцелага Гітлера з яго планамі "новага парадку" — валодаць усім светам, заняволіць усе народы, зрабіць сваімі рабамі, а нязгодных знішчыць у газавых камерах ці расстраляць, калі пачалася *сусветная бойня, тады, зразумела*, дух маіх продкаў, іхнія запаветы ажывіліся ў свядомасці маіх землякоў — і гневам зашумелі былыя лясы Чапшчына, Луцавіцкія хвойнікі, Мікалаеўшчынскія бары, Радзівілаўскія палеткі, Міндаўгскія замчышчы. Бліскавіцы з перунамі, вогненныя віхуры забушавалі над Нёманам. Партызанскія кулі касілі няпрошаных "гасцей" ужо ў першыя месяцы вайны ў 1941 годзе, а ў 1942 годзе фашысцкія трупы ўсцілалі вуліцы раённых гарнізонаў у Капылі, ва Уздзе (сам бачыў) і іншых гарадах і паселішчах Беларусі, не гаворачы ўжо пра дарогі і лясы. Гераічны дух продкаў лунаў над беларускай зямлёй, зараджаў мужнасцю і адвагай юнакоў і дзяўчат, сталых хлопцаў і пажылых дзядоў. Зноў узяў зброю ў рукі легендарны дзед Талаш. Мае сябры-аднакласнікі з Магільнянскай сямігодкі трэцяга снежня 1942 года ў Лаўскім баі на Капыльшчыне сталі насмерць. 18 герояў загінулі, але не прапусцілі фашыстаў і іхніх халуёў-бобікаў у партызанскі лагер. Не думалі хлопцы аб смерці, а толькі аб перамозе. Калі выйшлі патроны ў кулямётчыкаў перад рукапашнай схваткай яны напісалі, каб лічылі іх камсамольцамі, паклалі запіску ў ствол і кулямёт засыпалі снегам з надзеяй, што сябры хоць вясной, як растане снег, знойдуць кулямёт, разжывуцца патронамі і зноў будуць знішчаць акупантаў, ачышчаць нашу зямлю ад прышэльцаў. Так і было. А самі падняліся ў рукапашную схватку... Вырвацца з акружэння не змаглі, але вакол могілак, дзе *яны вялі бой, цямнелі на бельм* полі каля сотні фашысцкіх трупаў. Партызанская брыгада імя Варашылава цэлы дзень вяла бой, а ноччу адарвалася ад ворага і перайшла ў Раеўскія лясы, а пасля на Палессе. Пра герояў была складзена песня. Яе спявалі не толькі партызаны, яна гучала ў вёсках не толькі Міншчыны. Вестка аб подзвігу 18 герояў Лаўскага бою пераляцела цераз фронт, заражала мужнасцю абаронцаў Сталінграда, дзе чырвонаармейцы стаялі таксама насмерць. Аб іх подзвігу ведалі мы, партызаны, усё насельніцтва Беларусі.

Героі гінулі, але іх дух мужнасці, стойкасці, нескаранасці лунаў над прасторамі, зараджаў энергіяй новых абаронцаў — у 1944 годзе ў радах партызан і падпольшчыкаў знаходзілася каля паўмільёна чалавек, уся Беларусь падтрымлівала народных мсціўцаў. Маткі, старэйшыя сыны якіх гінулі ў баях, бласлаўлялі на барацьбу з фашыстамі сваіх малодшых сыноў.

Аб чым думаў я, як на сёмы дзень вайны ўбачыў фанабэрыстых немцаў, якія на маіх вачах расстралялі трох палонных чырвонаармейцаў? Аб выратаванні сваёй шкуры? Аб выратаванні сваёй сям'і? Аб падпарадкаванні ворагу? Не і яшчэ раз не. Дух продкаў напамінаў мне: мы вякамі баранілі сваю зямлю ад чужынцаў. Ты ж вывучаў гісторыю і помніш бітву на Чудскім возеры, бітву Грунвальдскую, Палтаўскую, бітву тваіх дзядоў ля Магільна на Нёмане і ля тваё вёскі Замосце. Мы

# ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ СУР'ЁЗНАЯ РАЗМОВА

Дзень 3 кастрычніка запомніўся работнікам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва прадстаўнічай навуковай канферэнцыяй. На ёй з дакладамі і паведамленнямі выступілі старшыня Камітэта па архівах і справаводстве пры Саўміне РБ У. Адамушка, намеснік загадчыка кафедры крыніцазнаўства гістфака БДУ М. Шумейка, дырэктар БДАМЛіМ Г. Запартыка і яе намеснік Г. Жукава, народны артыст РБ, музыказнавец В. Скорабагатаў, вядучыя навуковыя супрацоўнікі Нацыянальнага архіва РБ В. Скалабан, А. Гесь і У. Ляхоўскі, супрацоўнікі БДАМЛіМ Т. Кекелева, В. Данекіна, В. Іванова, І. Юркова і вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Н. Усава. Удзельнікаў Архіўных чытанняў праінфармавалі аб навукова-асветніцкай і выдавецкай дзейнасці БДАМЛіМ за апошні год, пазнаёмілі з планамі і задачамі далейшай работы. Важную частку архіва ў наш час уяўляюць дакументы асабістага паходжання, якімі з 1960 года займаецца Архіў дзеячаў культуры. БДАМЛіМ захоўвае асабістыя архівы многіх літаратараў, мастакоў, музыкантаў і інш. Падчас канферэнцыі былі ўзгаданы імёны У. Сыракомлі, М. Каспяровіча, М. Шагала, У. Эпімаха-Шыпілы, Л. Вітана-Дубейкаўскага, А. Бабарэкі, Т. Кляшторнага, А. Гурло, Б. Тарашкевіча, Л. Бэндэ, М. Забэйды-Суміцкага, М. Равенскага, С. Палееса і многіх іншых.

С. Я.

# МІНУЛАЕ — ПОБАЧ

Беларускаму тэлебачанню ёсць што паказаць не толькі на экране. У гэтым можна пераканацца, патрапіўшы на вул. Макаёнка, 9, і завітаўшы ў новы музей, экспазіцыя якога прысвечана гісторыі стварэння нацыянальнага радыё, а потым і тэлебачання.

У першай зале размешчаны стэнды з багатай калекцыяй фотаздымкаў, эксклюзіўных дакументаў. З іх можна даведацца, што першыя "радыёкрокі", напрыклад, уяўлялі сабой... чытанне ў эфіры газеты. А сігналы дакладнага часу перадаваліся з дапамогай фартэпіяна, на якім "трэнькалі" адну ноту неабходную колькасць разоў.

Захоўваюцца ў музеі і "старадаўнія" тэлевізары. Прычым, самая першая мадэль мае пападзе экрана ёмістасць з вадой — замест лінзы для павелічэння карцінкі. Але ж самае цікавае, што ўся гэта тэхніка ў працоўным стане! Адно дрэнна: як паведаміў галоўны захавальнік музея Віктар Калашнік, убачыць па тых "агрэгатах" можна толькі адзін тэлеканал (а хіба іх тады было шмат?).

Ды ўсё ж гісторыя радыё і тэлебачання — гэта не столькі тэхнічнае абсталяванне для вытворчасці праграм, колькі, найперш, творчыя асобы, якія тыя праграмы рабілі, вызначаючы такім чынам аблічча нашага радыё- і тэлеэфіру ў простым і пераносным сэнсе. Таму вельмі прыемна, што ў музеі можна ўбачыць фотаздымкі і першых тэлевядучых, і першых дыктараў радыё, галасы якіх гучалі для слухачоў у 20-я гады (Ніна Кабаліна, Аляксандр і Уладзімір Юрэвічы, Леанід Абадоўскі).

Асобны стэнд прысвечаны пяці абласным тэлерадыёкампаніям, першая з якіх заснаваная ў Гомелі (1957 г.), апошняя ж — у Магілёве (1989 г.).

У другой зале дэманструюцца разнастайныя ўзнагароды — дыпломы, кубкі, прызы, заваяваныя Беларускім радыё і тэлебачаннем на ўсесаюзных і міжнародных конкурсах. Таксама тут можна ўбачыць эскізы дэкарацый, зробленыя адным з першых мастакоў-пастаноўшчыкаў Беларускага тэлебачання Міхаілам Карпуком, які за амаль 15 гадоў выпусціў у свет не толькі безліч канцэртаў і разнастайных праграм, але і шматлікія тэлеспектаклі, што вызначаліся скрупулёзнай дэталізаванасцю відэашэрагу.

У 2005 г. будзе адзначацца 80-гадовы юбілей Беларускага радыё. У 2006 г. — 50 гадоў з выхаду ў эфір першай беларускай тэлеперадачы. Сёлета, дарэчы, можна адзначаць яшчэ адно 50-годдзе: з пачатку будаўніцтва тэлецэнтра на вуліцы Камуністычнай. Таму, думаю, можна чакаць і пашырэння музея. Бо ён — наша мінулае, што жыве побач з сучасным.

Кацярына ДРОБЫШ



# «ЛІРНІК ВЯСКОВЫ» І БЕЛАРУСКІ

## НАТАТКІ З МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

Нядаўна мы адзначылі 195 гадоў з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча — першага прафесійнага беларускага пісьменніка, адну з самых значных постацей не толькі нашай літаратуры, але і ўвогуле беларускага Адраджэння XIX ст.

Побач з Дуніным-Марцінкевічам працяглы час крочыў у жыцці і ў прыгожым пісьменстве яго малодшы калега, якому нядаўна споўнілася 180 гадоў. Гэта — Уладзіслаў Сыракомля, які нарадзіўся ў 1823 годзе ў вёсцы Смольгаў на Любаншчыне (пазней быў і на Нясвіжчыне, Стаўбцоўшчыне, паблізу Ашмян) і які таксама хораша засведчыўся свядомасцю, гуманізмам, талентам, стаў яркай асобай у няпростым XIX ст.

Напрыканцы верасня 2003 года ў НАН Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная юбілею вядомага польскага і беларускага паэта і этнографа. Адзін з ініцыятараў (разам з Любанскім райвыканкамам) яе склікання старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Ц. Карпінскі, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі **У. Гніламёдаў**, паэт, прафесар з Польшчы **А. Баршчэўскі,** вучоны і пісьменнік **А. Мальдзіс** у сваім вітанні ўдзельнікам канферэнцыі падкрэслілі не толькі значнасць гэтага мерапрыемства па его даце, але і значнасць напісанага У. Сыракомлем, які з маладых гадоў адчуў сябе ліцвінам (насельнікам былога Вялікага Княства Літоўскага), вывучаў старажытную беларускую гісторыю і культуру, дзейнасць першадрукарой, спазнаў народнае жыццё, глыбока спачуваў простаму гаротнаму люду, будзіў яго годнасць і свядомасць, народныя душу, талент увасабляў у сваіх творах. За гэта яго высока ацанілі Ю. Аксакаў, М. Горкі, лічылі яго "сапраўдным народным гусляром" (М. Горкі вылучаў яго ў адзін шэраг з Пушкіным, Шэйлі, Гейнэ, Міцкевічам), адзначаючы яго "вялікі дэмакратызм і разам з тым узвышаны дух" яго твораў.

### СЫРАКОМЛЯ — "ЛІРНІК ВЯСКОВЫ"

У дакладах "Сыракомля і беларуская літаратура" кандыдата філалагічных навук У. Мархеля, "Нацыянальная аснова паэзіі Уладзіслава Сыракомлі" доктара філалагічных навук А. Яскевіча, настаўніцы Смольчаўскай СШ імя У. Сыракомлі Любанскага раёна **Г. Пажэмяцкас**, "Сентыменталізм у творчасці Уладзіслава Сыракомлі" старшага выкладчыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта **І. Бурдзялёвай** зазначалася, што Сыракомля-паэт больш, чым ведаў і любіў сучасную яму вёску.

"Калі паэт, — пісаў у свой час М. Аксакаў, — можа прысвяціць усю сваю дзейнасць аднаму якому-небудзь прадмету, вакол якога, нібы вакол агульнага цэнтра, лунаюць і кружацца ўсе вобразы, думкі яго і летуценні, у якім, нібы ў фокусе, збіраюцца ўсе водгукі і ад якога ўсе любоўныя струны яго атрымліваюць асаблівы водгалас і каларыт, — то такім прадметам, бясспрэчна, з'яўляецца для Сыракомлі Літва", а польскі даследчык А, Брукнер удакладняў, што гэты аўтар менавіта "Сапраўдны пясняр беларускай зямлі, ні ў якім разе не літоўска-жмудскай".

Паэт пісаў так:

*"Пра адно я толькі спяваю,*
*хоць на розныя ноты:*
*Хай жыве наша Літва!*
*Хай жывуць ліцвіны!"*

Скразным матывам гучыць гэта і ў беларускамоўных вершах "Добрыя весці", "Ужо птушкі пяюць усюды..." і ў польскамоўных "Лірнік вясковы", "Труны Радзівілаў", "Не я пяю — народ Божы...", "На Палессі", "Жніўная" і ў іншых вершах, паэмах (гутарках і гавэндах). Выступоўцы падкрэслівалі, што У. Сыракомля не толькі ідэалізаваў прыроду, сялянскі ўклад жыцця, этычны ідэал чалавека, веру ў Бога, хоць у "гэтай справе быў ювелір" (Г. Пажэмяцкас), але "еў з хлебам і маркоту" (выкладчык Баранавіцкага вышэйшага педагагічнага каледжа Ж. Салдаценкава ў дакладзе "Не я пяю — народ Божы..."), вымалёўваў у вершах і паэмах не прастачка-селяніна, а годнага чалавека, які сам часамі цураецца сваёй годнасці.



Доктар філасофскіх навук У. Конан свой даклад прысвяціў тэме "Арфічныя і хрысціянскія матывы ў паэзіі", малодшы навуковы супра-



# АДТЭРМІНАВАНАЕ П'ЯНСТВА,

## ЦІ ПРАЗ "ЛЁГКІЯ" НАРКОТЫКІ ДА ГЕРАІНА

"Пей пиво на заре, Пей пиво перед сном, Пей пиво на траве, Пей пиво за столом..." — словы з песні вядомай расійскай музычнай групы б'юць па мазгах вялізнага (можа, з тысячы, ці, нават дзве) натоўпу маладых людзей, якія пасярод плошчы пад лёгкім дурманам, ускідваючы ўгору рукі з бутэлькамі халоднага, свежага, густога, бурштынавага, пеннага піва таўкуць пыл нагамі, адрывіста выкрыкваючы нешта ўслед салістам.

Гэта не сон, гэта ява. Сёння, сустрэць на вуліцах гарадоў (дзякуй богу, што не дакацілася да вёсак) хлопцаў і дзяўчат з бутэлькамі піва ў руках можна паўсюдна. Моладзь п'е. "Не, — кажуць мне, — моладзь не п'е, яна "тусуется", "оттягивается", "торчит..." Можа і так, згаджаюся я, але ж толькі для прыліку, бо заўважаю, як маладыя людзі, па сутнасці, падлеткі (школьнікі старэйшых класаў) прывыкаюць да "лёгкага", як некаторыя з іх кажуць, але ж вельмі небяспечнага (яшчэ не ўсведамлена) алкагольнага напоя. Глядзіш на гэты натоўп і з жахам думаеш, што піўны алкагалізм — гэта ўжо хвароба не аднаго маладога чалавека, гэта хвароба многіх тысяч. І неяк робіцца страшна.

Лістаю адзін з расійскіх часопісаў. Чытаю: "Тыя прагнозы, якія выказвалі спецыялісты яшчэ ў дзевяностыя гады па раннім алкагалізме моладзі, сёння, на жаль, спраўджваюцца. Аказваецца, што 73,5 працэнтаў маладых расіян, хворых на алкагалізм, ва ўзросце ад 15 да 20 гадоў ужывалі лёгкія алкагольныя напоі, а 26,5 працэнтаў з іх пілі гарэлку. Дык вось у пераліку на чысты спірт аматары слабаалкагольных напояў у сярэднім у дзень выпівалі 200 мілілітраў спірта, а тыя, хто піў гарэлку, толькі 100-150 мілілітраў".

Сёння ў практыцы беларускіх наркалагаў колькасць "піва-залежных" лічыцца адзінкамі. Але не выключана, што сапраўдная праблема ўжо чакае нас на парозе, бо піўны алкаголік — гэта не "сінюжнік", які збірае пустыя бутэлькі, гэта маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія п'юць піва з пляшкі на вуліцах гарадоў, у метро, на вакзалах, здзіўляючы іншаземцаў сваёй непрыстойнасцю.

Прыгожы асенні вечар. У сталічным скверы каля тэатра імя Янкі Купалы з паўсотні маладых людзей. З першага погляду, калі не ўзірацца што яны трымаюць у руках, можна падумаць, што бавяць час перад пачаткам спектакля, але ж гэта памылковая думка, яны проста



цоўнік Інстытута літаратуры НАН РБ **С. Мінскевіч** — "Прысутнасці Міцкевічаўскіх "Дзядаў" у паэзіі Уладзіслава Сыракомлі", а кандыдат філалагічных навук **І. Багдановіч** разгледзела тэму "мастацкай інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі ў п'есе Уладзіслава Сыракомлі "Магнаты і сірата", дзе ярка выведзены сімпатычны вобраз маладой жанчыны, якая, хвалюючыся за лёс народа, уратавала мужчын ад праліцця крыві за магнацкія амбіцыі.

Доктар філалагічных навук **Г. Кісялёў** расказаў, што ўвайшло і не ўвайшло з дзесяці сыракомлеўскіх тамоў твораў у складзеную ім у 1970-я гады кнігу "Пачынальнікі", што яшчэ чакае апублікавання (радаводная і палітычная справа Сыракомлі, ягоная перапіска, апісанне паездкі ў Кракаў і яго пахаванне і г.д.). Было адзначана: з таго, што сёння вядома беларускаму чытачу, вялікая заслуга даследчыкаў і перакладчыкаў У. Мархеля і К. Цвіркі, М. Лужаніна, У. Дубоўкі і іншых.

## ...І ЎСЁ Ж "ПАШТАЛЬЁН!"

Краязнавец з Баранавіч **М. Маліноўскі** сваё выступленне прысвяціў вершу У. Сыракомлі "Паштальён", які прынёс аўтару шырокую вядомасць (верш перакладаўся на рускую мову 8 разоў, на беларускую — 4 разы, але яшчэ і цяпер ёсць патрэба, сказаў выступоўца, правесці конкурс новых перакладаў твора). Разам з гэтым адзначалася высокая нацыянальная свядомасць Сыракомлі, чаго, на думку выступоўцы, бракуе сёння і многім нашым пісьменнікам, якія спакойна сузіраюць за гібеннем беларускай мовы і культуры. Гэтыя пытанні развіваў і заслужаны артыст Беларусі **В. Скорабагатаў**, зазначыўшы, што ў свой час быў такі негатыўны момант: творчасць У. Сыракомлі, іншых пісьменнікаў, якія жылі на беларускай зямлі, пісалі на беларускім матэрыяле, але па-польску, — дык вось іхнія творы па праграмах вывучалі як... замежныя. Не пераадолена цалкам гэтая тэндэнцыя і сёння. Шмат цікавага расказаў пра Сыракомлевы музычныя праявы, яго варункі з С. Манюшкам, крытычна адазваўся выступоўца і пра многія сённяшнія папсовыя музыку і песні, у якіх і следу няма сыракомлеўскай народнасці, яны ў сапраўдным сэнсе папсутыя, але імі запаланяюць эфір, эстраду. Проста нельга, каб сёння ў нас не гучалі такія народныя творы, як "Паштальён", а таксама і іншыя перакладныя творы іншых паэтаў, без якіх цяжка ўявіць беларускую літаратуру, культуру XIX ст.

## КРАЯЗНАЎЦА

Доктар філалагічных навук з Бабруйска **А. Ненадавец**, а таксама і іншыя шмат запынялі сваёй увагі на тое, што У. Сыракомля вызначаўся яшчэ і тым, (цікава вельмі і сёння), што пакінуў шмат нарысаў, нататак, эсэ, услед за краязнаўцамі Тышкевічамі і іншымі ўнёс значны ўклад у беларускае рэгіянальнае мастацтва — апісаннем сваім вандровак па палескай стаўбцоўска-нясвіжскай, ашмянскай землях, тагачаснага Мінска, даследаваннем беларускай мовы ў мінскай правінцыі, працамі па высокай ацэнцы творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча (пра варункі двух волатаў беларускага адраджэння хораша і змястоўна гаварыў кандыдат філалагічных навук **Я. Янушкевіч**).

## НА СЫРАКОМЛЕВАЙ РАДЗІМЕ

Міжнародная канферэнцыя на другі дзень прадоўжыла сваю працу ў Любанскім раёне, куды ўдзельнікаў папярэдне запрашаў загадчык аддзела культуры райвыканкама **В. Катковец**, дзе госці пазнаёміліся са Смальгаўскай СШ імя У. Сыракомлі, прысутнічалі пры адкрыцці памятнага знака, прысвечанага памяці знакамітага земляка (аўтар — скульптар з Ліды Р. Грута), заклалі рабінавую алею і працягнулі размову пра рознапланавую творчасць У. Сыракомлі, што зрабіла і працягвае рабіць вялікі ўплыў на беларускую літаратуру і культуру, пабылі на святочным канцэрце, што ўвянчаў работу Міжнароднай канферэнцыі.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

---

бавяць час з лёгкімі напоямі. На лаве, што крыху збоч ад галоўнага ўваходу ў парк, купкай сядзяць (дарэчы, маладыя людзі аддаюць перавагу ўзабрацца на спінкі, апусціўшы ногі на сядзенне), двое хлопцаў і дзяўчынка. Паўз ног — пляшкі з півам.

— Не хвалюйцеся, мы п'ём не гарэлку... Алкаголікамі не станем...

Не здагадваюцца маладыя людзі, якія, дарэчы, не ад смагі п'юць піва, што заводзяць сябе і іншых у зман, калі вераць у тое, (не гаворачы ўжо пра здароўе), што шлях праз "лёгкія" напоі да алкагалізму, адпаведны шляху праз "лёгкія" наркотыкі да гераіна.

Вось што, напрыклад, гавораць пра гэтую праблему спецыялісты, дактары-наркологі: "Піва паміж сабой мы называем "уваходнымі варотамі" алкагалізму, бо піўны алкагалізм фарміруецца ад аднаго года і больш. Выхад з запою вельмі цяжкі і доўгі па часе. Вынікі яго вельмі разбуральныя, так як у арганізме павялічваецца аб'ём цыркулірую чай вадкасці, натуральна, што павялічваецца нагрузка на сэрца і ныркі. Гэта, як вядома, прыводзіць да развіцця сур'ёзных паталогій, не гаворачы ўжо пра мозг і печань — органы, якія хварэюць у першую чаргу".

Вядома, што ў розных відах алкаголю ёсць дадатковыя пажыўныя баластныя рэчывы, шкодныя прымесі. Менавіта яны і розняцца па эфекту і па часе. І калі на арганізм аднаго падлетка алкаголь, у прыватнасці, піва ўздзейнічае паступова, з цягам часу, то на другога, асабліва, калі ў апошняга прыроджаная схільнасць да алкаголю (і такія сем'і ў нас ёсць), то піва адыгрывае тую ж ролю, што і гарэлка.

Таму зразумець юнакоў, ці тых дзяўчат з бутэлькамі піва, што яно неабходна ім як хлеб, няма ніякай падставы. У маладых людзей ёсць адно жаданне — не адступіць ад навязлівай моды, не быць сярод натоўпу белай варонай. І хаця для многіх пачынаючых піва — не сок і не газіраваная вада, ад ужывання якіх можна адчуць сапраўдную асалоду, яны ўсё ж труслівa, другі раз насуперак розуму і сваёй волі, (каб не абзывацца), насуперак арганізму, які адпіхвае алкаголь, нават даходзіць да ванітавання, аддаюць перавагу піву. Праходзіць нейкі час і спачатку піва, потым мацнейшыя напоі становяцца звычкай, неабходным элементам адпачынку ці супакаення. А разам з імі з'яўляюцца і алкагольныя эксцэсы: мікракардыёстрафія, цыроз печані, гепатыт. Шкодзяцца клеткі галаўнога мозга, таму хуткім тэмпам парушаецца інтэлект, з'яўляюцца правалы ў памяці. Перад чалавекам, калі ўжо выпіта не адна бочка, ці, нават, цыстэрна піва, паўстае праблема: піць ці не піць — трэцяга варыянта няма. І толькі дзякуючы ўласнай непахіснасці ды дапамозе доктара можна нечага дабіцца, каб вярнуцца ў нармальнае жыццё.

Як ні дзіўна, але ступіць моладзі на алкагольны шлях дапамагае, у першую чаргу, рэклама. Дзесяткі разоў за суткі на тэлевізійных экранах, дзесяткі самых розных піўных кампаній, не шкадуючы тысячы долараў, насаджаюць ім піўны алкагалізм. Безумоўна, што некаторыя падлеткі разумеюць рэкламу па-свойму, што піва — не гарэлка, інакш бы яе не сталі рэкламаваць, таму і не адносяцца да яго крытычна. А дарэмна, бо ўжыванне піва, асабліва да 18 гадоў, гэта адтэрмінаваны шлях да п'янства, гэта стартавая паласа алкагалізму, гэта мост да ўжывання больш моцных напояў, а там і наркотыкаў.

**Віктар ПАТАПЕНКА**

***Фота А. Патапенкі***

---



## літаратурны квартал

25 верасня адбылося чарговае пасяджэнне "Літаратурнага квартала", на якім разглядалася творчасць Дар'і Лосевай. Асноўнымі рэцэнзентамі былі — В. Гарністава, М. Шамякіна і І. Каляда, якія ў сваіх выступленнях адзначылі, што ў асобе Д. Лосевай мы маем маладога таленавітага паэта са сваім бачаннем свету, са сваім паэтычным голасам. Пра адметнасці паэзіі Д. Лосевай гаварылі: Р. Малахоўскі, Л. Слівіцкая, Г. Серахан, К. Наркевіч, З. Арцюх, І. Беленькі, А. Ключнікаў, Я. Конеў, А. Спрынчан, І. Клепікаў, Т. Вабішчэвіч, Т. Барысюк, С. Патаранскі, Н. Капа, В. Трэнас.

2 кастрычніка пасяджэнне "Літквартала" было нетрадыцыйным — яно адбылося ў кватэры Аксаны Спрынчан. Прысутныя змаглі паглядзець відэафільм пра святкаванне літквартадаўцамі сёлетняга Купалля на Лысай гары. Як заўсёды, на пасяджэнні чыталіся і абмяркоўваліся новыя вершы.

Пасяджэнні "Літквартала" адбываюцца кожны чацвер а 18-й гадзіне ў памяшканні "ЛіМа".

---

ПОШТА

# ШКОЛА ЧАКАЕ ПІСЬМЕННІКАЎ

Я — настаўніца гісторыі. Вядома, што без гісторыі няма літаратуры, без літаратуры — гісторыі. Адна з маіх задач як настаўніцы — фарміраванне культуры выбару. Гаворка ідзе не аб выбары нейкай абстракцыі, усё вельмі сур'ёзна. Важна выбраць сваю Радзіму, зямлю бацькоў, у якой ніколі не было лёгкага лёсу і лёгкага часу. Не падзяляю выказванні журналістаў аб тым, што нацыянальная ідэя і ідэя дзяржаўнасці выпучаны своечасова. Спазніліся крыху. Цяжка сказаць, па якіх дарогах сёння ходзяць і з чым у сэрцы жывуць тыя, хто пайшоў у школу ў 1991 г., пасля гэтага года і ўжо закончылі школу. Але лепш позна... Трэба спадзявацца, што гэта дзяржаўная палітыка і назаўсёды. Упэўнена, што ў тых школах, дзе вучэбна-выхаваўчы працэс вёўся ўсур'ёз і мэтанакіравана, неабходныя ідэі фарміраваліся. Але мой ліст не аб гэтым.

У дзяцінстве, юнацтве, усё ўспрымаецца ярка і востра. Расце чалавек, фарміруецца, выбірае свой шлях. Ланцужок такі: фарбы — словы, пачуцці — вера — учынкі — ідэя — пераканананасць — выбар — крэда — чалавек **состоялся**. Ці ёсць у нашай літаратуры, такія творы, якія можна было б выдаць у серыі "компас"? Была такая серыя. Ёсць. Аб розных часах, палітычных рэжымах, аб доўгімдоўгім дзяцінстве. Дазволю сабе пералічыць некаторыя з іх "Міколка-паравоз" Лынькова, "Золак убачаны здалёк" Я. Брыля, "Родныя дзеці" Н. Гілевіча, "Пачакай, затрымайся" А. Васілевіч, "Праклятая любоў" А. Жука, "Пераломны ўзрост" І. Навуменкі, "Лісце каштанаў" У. Караткевіча, "Дзесяты клас" Г. Далідовіча, "Аселіца ў басейне Чорнага мора" В. Гардзея, "Хроніка дзетдомаўскага сада" В. Казько, "Напрадвесні" У. Салахі і інш. Згаданыя творы — энцыклапедыя беларускага дзяцінства, творы аб сонцы і хмарах, слёзах і радасці, аб цеплыні і дабрадце, аб жыцці. Прабачце, шаноўныя творцы, але пералічыць усе творы і ўсіх аўтараў немагчыма. З адным з названых аўтараў у мяне была дамоўленасць аб сустрэчы. Мы з вучнямі перачыталі ўвесь той стос кніг, які ён мне падпісаў. Рыхтаваліся, але сустрэчы так і не адбылося. Нам з настаўніцай літаратуры і з класнымі кіраўнікамі было вельмі няёмка перад вучнямі, мы не змаглі растлумачыць ім, чаму не сустрэліся, не знайшлі адказу на пытанне: "Мы ўсе кніжкі прачыталі, а калі ён прыйдзе?" Тыя, хто рыхтаваліся да сустрэчы, ужо закончылі школу. Можа, ён прачытае мой ліст і прыедзе. Мы чакаем пісьменнікаў. Не перетварыўся ж пісьменнік у чыноўніка. Шаноўныя творцы, ідзіце да дзяцей, ваша слова трапляе ў мільёны сэрцаў. Вашы героі добрыя, чыстыя. Ніхто, акрамя вас, не запаліць агонь у маленькіх сэрцах. Вам ёсць што сказаць, вам вераць. Чакаем мы ў сваёй школе і пісьменніка-земляка, які сцвярджае, што ў кожнага павінна быць свая рака, каб ён расказаў пра "Званых і выбраных" на роднай зямлі.

Без вашых твораў і нашага з вамі супрацоўніцтва не будзе беларуса, не будзе чалавека, без чалавека не будзе Дзяржавы.

**Валянціна ГЕРАСІМАВА,**
**в. Жылічы, Кіраўскі раён**

# СУСТРЭЧА НА СОЖЫ

На мінулым тыдні Гомельскі раён стаў месцам правядзення міжнароднага славянскага пленэру імя народнага мастака РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, акадэміка жывапісу Г. Ніскага, які нарадзіўся ў Гомелі. Для ўдзелу ў гэтым творчым мерапрыемстве прыехалі вядомыя майстры пэндзля Э. Агуновіч і В. Нямцоў з Мінска, М. Казакевіч, Р. Ландарскі, А. Окічык, У. Кароткі з Гомеля, П. Захараў з Мазыра, а таксама мастакі з Масквы, Белгарада, Бранска і Чарнігава.

Месцам напісання пейзажаў стала маляўнічае Прысожжа. Удзельнікі пленэра арганізавалі экспазіцыю сваіх работ у мясцовай абласной арганізацыі Саюза мастакоў, а Гомельскаму раёну і гораду перадалі некалькі аўтарскіх карцін.

Аляксей ШНЫПАРКОЎ
*г. ГОМЕЛЬ*

# АДКРЫЦЦЁ — У САЛІГОРСКУ



23 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё новага філарманічнага сезона ў Салігорскай дзіцячай музычнай школе. З сольным канцэртам праехаў з Мінска прафесар Беларускай акадэміі музыкі, народны артыст РБ Ігар Алоўнікаў.

Віртуозны пачатак вечара дала Саната сі мінор Ё. Гайдна, якую піяніст выканаў з вялікай энергіяй. Адзін з самых папулярных твораў для хатняга музіцыравання "Вальс-фантазія" М. Глінкі абудзіў рамантычныя пачуцці слухачоў. Адпаведныя часу п'есы з цыкла "Поры года" П. Чайкоўскага нібыта перадалі настрой восеньскага вечара.

А вось — яго ж імклівы опус № 1 "Рускае скерца", прысвечаны М. Балакіраву, ажывіў паважаную публіку, якая адгукнулася воклічамі "Брава!!!" і — кветкамі.

Ігар Алоўнікаў прадставіў і прэм'еру ўласных транскрыпцый для двух фартэпіяна — Тры п'есы з балета П. Чайкоўскага "Лебядзінае возера": Андантэ, Элегія. Танец маленькіх лебедзяў. Побач са сваім настаўнікам пранікнёна і годна грала яго вучаніца, аспірантка Беларускай акадэміі музыкі Таццяна Балагор.

На завяршэнне праграмы піяніст выканаў свае фартэпіянныя транскрыпцыі іспанскіх народных танцаў "Кармэн" і "Арлезіянкі" Ж. Бізэ.

Задаволеная публіка будзе чакаць наступных візітаў вядомага беларускага музыканта.

Сяргей ЯКІМОВІЧ
*г. СТАРОБІН*

*ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# УДАКЛАДНЕННЕ

У "ЛіМе" за 27 верасня ў артыкуле Ул. ГЛУШАКОВА пра энцыклапедыю прапушчаны імёны двух галоўных рэдактараў — М. ТКАЧОВА і Б. САЧАНКІ. Выпраўляем памылку і просім у аўтара прабачэння.

КРЫТЫКА

# «ВЕДАЙ, БРАТ МАЛАДЫ, ШТО Ў ГРУДЗЯХ У ЛЮДЗЕЙ...»

## ПРАБЛЕМА АЎТАРЫТЭТНАСЦІ Ў МАСТАЦКАЙ ПРОЗЕ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ 20-Х ГАДОЎ XX СТАГОДДЗЯ

Вывучэнне мастацтва і чалавека неадрыўнае ад аналізу альтэрнатыў, якія стаяць перад імі. Відавочна, што любы выбар ці альтэрнатыва прадугледжвае наяўнасць пэўнай схільнасці да таго ці іншага інтуітыўна-рацыянальнага эталона ці ідэалу, які бярэцца апрыёры за аснову. У нашым даследаванні паняцці ідэалу і эталона мы кантамінуем дэфініцыяй аўтарытэтнасці. Зыходзячы з той агульнапрызнанай філасофска-лагічнай пасылкі, што любая адсылка ў вызначэнні ісціны да аўтарытэту ёсць памылка. Аднак, з іншага боку, у жыццёва-практычнай і мастацкай рэалізацыі зварот да аўтарытэтнасці ёсць абавязковы элемент у пазнавальнай гістарычнай дзейнасці, які вызначае паняцце аўтарытэтнасці як важнейшы фактар суб'ектна-аб'ектыўнай падцвярджальнасці і асноватворны пункт іманентнай замацаванасці любой культурнай і навуковай сістэмы каардынат. Разумеючы шматбаковасць і поліфанічнасць суадносінасці чалавека са светам, трэба гаварыць аб наяўнасці вялікай колькасці вартасных праяў аўтарытэтнасці і яе рэлятыўнай гістарычнай складаемай.

Мы ж пры разглядзе літаратурна-мастацкага жыцця беларускай прозы 20-х гадоў, пазначанага перыядам ад "Маладняка" да "Узвышша", зыходзім з дылемы дзвюх ліній аўтарытэтнасці: аўтарытэт навацыі і аўтарытэт традыцыі з іх разнастайным наборам мадыфікацый. Часта характарызуючы праблему наватарства і традыцыі ў іх дыялектычным узаемапрамаленні, даследчыкі міжволі трапляюць у пастку дыфузнага распылення гэтых альтэрнатыўных і шмат у чым разнавектарных працэсаў, якія дыялектычна звязаны па большасці толькі агульнымі законамі ўзаемададапаўняльнасці і ўзаемапераходнасці. Выключная каштоўнасць мастацкай спадчыны пяцігадовага перыяду (1923—1928) 20-х гадоў XX стагоддзя ў гісторыі маладой беларускай літаратуры, на нашу думку, тлумачыцца выразнай праяўленасцю змены мастацкіх парадыгм аўтарытэтнасці ў найбольш таленавітых маладых пісьменнікаў пры ўсім складана-хаатычным працэсе існавання беларускай літаратуры 20-х гадоў. Унікальная і сама прырода такога хуткаснага сацыяльнага і творчага развіцця, якая дазваляе гаварыць аб рэальна-аб'ектыўнай саспеласці нацыянальнай ідэі ў перыяд 20-х гадоў і аб яе фенаменальна-непаўторнай значнасці. Пачынаючы аналіз творчага развіцця арганізацыі "Маладняк", звернемся да статутных матэрыялаў бюлетэня І Усебеларускага з'езда літаратурнага аб'яднання "Маладняк", дзе мы можам прачытаць наступнае: "Маладнякоўская літаратура не парвала мастацкіх традыцый..., яна не пераскочыла праз вопыт мінулага, яна толькі вырасла з тых рамак, у якіх развівалася папярэдняя літаратура, і тым самым разбурыла рамкі адраджэнскі і выйшла на шырэйшы шлях, адкінуўшы тое, што ўжо зроблена ў сэнсе змагання за правы на існаванне беларускай душы".

У першай частцы гэтай дэкламацыі гучыць запэўніванне ў вернасці традыцыям папярэднікаў. Асабліва падкупляе выраз аб тым, што ён, "Маладняк", не пераскочыў праз вопыт мінулага. З гэтым трэба пагадзіцца ў тым сэнсе, што маладнякізм, як не адзін іншы літаратурны рух, змог настроіцца на свой дыяпазон раскрыцця рэчаіснасці, трапна ўлавіўшы павевы часу. Разам з тым уся квінтэсенцыя другой часткі вышэйпададзенага выслоўя ўтрымліваецца ў словах "адкінуўшы тое, што ўжо зроблена". У больш шырокім кантэксце гэтая слоўная формула прама працуе на знакамітую сентэнцыю рускага філосафа П.Чаадаева, які, характарызуючы гісторыю Расіі, пісаў: "Мы так дзіўна рухаемся ў часе, што з кожным нашым крокам наперад мінулае імгненна знікае незваротна для нас". Менавіта пачаткова актыўная арыентацыя маладнякоўцаў на наватарска-модную ідэю сацыялізму, з яе аптымістычнай праграмай пабудовы новага свету і адначасовай задачай "выцiснуць чэмер мінулага з сучаснага ім жыцця", была ў многім зваротам да монапартыкулярнай аўтарытэтнасці бальшавіцкай партыі, якая звужала творчую зададзенасць да самазамыкання і прафанацыі. Сам жа гістарычны працэс войн і рэвалюцый, які быў быційна-рэальным фонам агульнага стану беларускага жыцця, наадварот, патрабаваў куды больш шырокіх рамак у спазнанні трагедыі беларускай душы. Так, аналізуючы апавяданне Ілары Барашкі "Іерогліфы Яэля" (1926 г.), мы знаходзім шмат сімптаматычных аналогій і дылем у вызначэнні праблемы наватарства і традыцыі. Па-першае, гэтае апавяданне-легенда прысвечана памяці Кастуся Каліноўскага. З іншага боку, у творы абвострана пастулюецца асноўны рэвалюцыйны дэвіз вырашэння справядлівасці і адплаты за здзек і пакуты, сацыяльнай няроўнасці.

Па-трэцяе, у творы рэфрэнам праходзіць тэма прызначэння мастака і мастацтва, іх ролі ў жыцці народа. Апавяданне пачынаецца і заканчваецца наступным чынам: "Народ стварае песняроў сваіх, паэтаў, з-пад струн музыкі леры-арфы, што бы лёгкі подых ветравіння, акорды гукаў льюць, а часам, ірвучы струны, акорды завіяюць у віхор... "Зыходзячы з палажэння аб паэце як грамадзяніне, пісьменнік разам з тым пазбаўляе яго свабоды, кажучы, што "народ стварае песняроў сваіх", робячы адначасна паэта выразнікам і найват каталізатарам разбуральных эмацыйна-душэўных і сацыяльных сіл натоўпу.

"Народ кахаў мяне за песні волі, прароцтва лепшых дзён... Бяссільны рэзчык, Яэль, абраны быў правадыром паўстання. І разбурылі мы адзін з прытвораў багамольні, што скрашвала пагост грабніцы фараона". Аўтар, аднак, не прамінае заўважыць тое, што бачыць у народзе-паўстанцы — раба: "Зморaны народ наш — раб момант гэты, нарадай парашыўшы, ішоў у горад фараона — разбурыць мэтаю было". Лейтматыўны сэнс апавядання — у сацыяльнай дылеме крыўды і праўды, якая дасягае найвышэйшага выражэння ў дыялогу на судзе старэйшын:

"— Пашто ты здрадзіў фараону і ўзняў народ супраць яго?

— За крыўду тую, што церпім век мы ўсе!

— За крыўду?

— Так, за яе, бо праўды фараона не ўглядаем мы, — адказваў я суду, узняўшы голаў к верэсу."

Вызначальным пунктам роздуму аўтара і яго галоўнага героя выступае думка аб тым, што зло можа быць пераможана злом і што паэт у пэўныя гістарычна спрыяльныя часы павінен клікаць на барыкады, ці як у аўтара, "...рвучы корды ў віхор завіяць...". У апраўданне сваіх шляхоў пошуку праўды аўтар і яго герой-паэт сваёй абаронай-аўтарытэтам лічаць апеляцыю да народа: "Народ! Табе не здрадзіў я..." Але тут узнікае іншая калізія: калі старажытнаегіпецкі паэт-паўстанец разумее, што ў гэты момант яго народ ёсць раб, што амаль тоесна паняццям "несвабодны", "цёмны", то аб якім матыве апраўданасці можа ісці гутарка? Паэт сваім Божым дарам таленту, прароцтва павінен шукаць, на нашу думку, іншай інстанцыі аўтарытэтнасці, якая б больш рэзка патрабавала ад паэта адказнасці за сваю дзейнасць і творчасць. Матыў такі выдатна распрацаваны ў мастацка-паэтычнай практыцы сусветнай класікі. Прыгадаем хаця б верш А.Пушкіна "Паэт і натоўп" ці "Песняру" М.Багдановіча:

Ведай, брат малады,
што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб'ецца аб іх
слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.

Гэта вера ў тое, што душа і сэрца кожнага чалавека маюць арыенцір выхаду ў кожны момант гісторыі з рабства бяздумнасці, прыніжанасці да царства прасвятлення і справядлівасці, дзе не павінен працаваць закон "ліха за ліха" ў кантамінацыі калізій крыўды і праўды.

Аўтарытэтнасць спасылкі на народ у апавяданні Ілары Барашкі ўтрымлівае таксама і нейкі элемент падмены паняцця народа паняццем паўстанцаў: амаль як замовы, на дзвюх старонках твора дзесяць раз паўтараецца слова "народ". А эмацыйны паўтор: "Народ! Табе не здрадзіў я...!" ёсць не што іншае, як імкненне надаць цэласны характар натоўпу-паўстанцам і разам з тым жаданне легалізаваць, рэабілітаваць зманлівую новую ідэю-утопію як індульгенцыю на права лічыцца справядлівай. І гэтая індульгенцыя-падмена шырокім фронтам прысутнічае ў шматлікіх творах маладнякоўцаў. З апавядання ў апавяданне пераходзяць антаганістычныя, амаль невырашальныя канфлікты бацькоў цемрашалаў і іх дзяцей, якіх вабіць светлая перспектыва будучыні, ці канфлікты немагчымасці суіснавання ідэалогій буржуазна-папоўскага класава-саслоўнага статусу з новай уладай, ці гіпербалізацыя супярэчнасці паміж забабонным, лапцюжнай вёскай і авангардна-перадавым вобразам горада. Назіраецца агульная тэндэнцыя — надаць сваім галоўным героям, носьбітам "перадавой ідэі", навязлівую ролю "звышразумнасці", дасканаласці, якая па большасці апелюе толькі сваёй апалогіяй пасіянарнасці, пачуццёвай узрушанасцю і няўрымслівасцю. Калі чытаеш апавяданне "Іерогліфы Яэля" І.Барашкі, узнікае спантанная асацыяцыя параўнання дзвюх розных манументальных скульптур егіпецкага сфінкса і помніка Пятру І у Санкт-Пецярбургу работы Фальканэ. Сузіральна-засяроджаная постаць ляжачага ільва з чалавечай галавой сімвалізуе вечны працэс пошуку глыбіннай пазнавальнай таямніцы жыцця, які не церпіць дзейсна-паскоранай, імгненна-эмацыянальнай вырашальнасці розных калізій і канфліктаў гісторыі і жыцця. І наадварот, скульптура Пятра І на ўздыбленым кані, гатовым раструшчыць усё на сваім шляху, стварае эмацыйную атмасферу неспакою, палахлівасці. Сам выгляд, асабліва позірк, імператара паказваюць нам натуру няўрымслівую, апантана-жорсткую, якая заварожана сваёй ідэяй і не жадае лічыцца з рэаліямі дня сённяшняга, які для яе толькі сродак скачка ў манументальную дзяржаўнасць будучыні.

Звернемся да марксісцкай ідэі-фікс аб хуткай перабудове зямнога жыцця і стварэнні райскай гармоніі шляхам знішчэння класавых антаганізмаў. Бальшавіцкая практыка давяла гэту ідэю да старажытнахрысціянскага ерэтычнага вучэння — маніхейства. Вучэнне старажытнаіранскага прапаведніка Мані было скіравана на тое, што зло ў свеце павінна быць абавязкова і назаўсёды ліквідавана, у якой бы форме яно ні выступала і хто б ні выступаў яго носьбітам. І тут паўстае асноўная праблема: хто павінен браць на сябе права на вызначэнне зла.

Вельмі часта зманлівыя новыя ідэі — пабудаваць сацыяльную гармонію на зямлі — адкрываліся сваім адваротным, маніхейскім, бокам (прыгадаем вучэнне Кальвіна), калі за наватарскім быццам бы разумна-доказным вучэннем акрэслівалася і выяўлялася прорва ці прадонне архаіка-тэктанічных сіл, якія, вырваўшыся з падполля і разбурыўшы існуючую іманентную іерархічную сістэму, перакульвалі яе і правілі свой баль. Бальшавіцкая ідэалогія мае вялікую аналогію з маніхействам. І нягледзячы на тое, што яна апранута ў тогу еўрапейска-марксісцкай рыторыкі, на паверку ў ёй знайшлі сваё найбольшае ўвасабленне псіхалагічныя рэцэптары архаікі язычніцка-славянскай топікі. Маладыя беларускія пісьменнікі 20-х гадоў, будучы непасрэднымі праваднікамі глыбіннай магмы гэтай архаікі, не маглі не падпасці пад магнетызм адлюстравання ўсхвалявана-радаснай настраёвасці выхаду магутных сіл народа на авансцэну гісторыі. Апелюючы часта да таго, што яны самі з'яўляюцца непасрэднымі ўдзельнікамі і сведкамі лёсавызначальных сацыяльных падзей, якія яны быццам добра разумеюць і радасна ўспрымаюць, на самай справе гэта было самападманам, бравадай, апалагетыкай кан'юнктурнай ідэалагічнай магчымасці

раскрыць і праявіць сябе. У многім гэту з'яву ў зніжаным варыянце можна ахарактарызаваць як мычанне цялят: недарэмна адзін з паэтаў гэтай пары назваў свой зборнік вершаў "Раніца рыкае". Рык цяляці заўсёды па большасці ёсць пошук маці-карміцелькі, заступніцы — дзе маці выступае ў ролі татальнага аўтарытэту. Такой alma-mater для маладнякоўцаў напачатку і выступала камуністычная партыя, ідэя сацыялізму. Ваенна-рэвалюцыйная эпоха першай чвэрці XX стагоддзя ў Расіі з яе сацыяльна-палітычнымі выбухамі стварыла такую магутную хаосную дынаміку развіцця, што нават тытанічна-дыктатарская палітыка бальшавіцкай партыі дзесяцігоддзямі вымушана была падпарадкоўваць яе сваім канонам.

У 20-х гадах XX ст. у дынаміцы мастацка-літаратурнага жыцця Беларусі назіраецца цікавы феномен паступальнай трансфармацыі і перамены парадыгмы аўтарытэтнасці ў шматлікіх мастакоў слова па меры іх творчага сталення і насуперак, у многім, асноўным ідэолага-палітычным працэсам, якія адбываліся ў краіне.

Цэнтр цяжару ў працэсе пераходу да парадыгмы аўтарытэту традыцыі ляжыць, у першую чаргу, на відавочнасці самападману і саманадзейнасці, якія знаходзяцца ў анталагічна-філасофскай аснове пазітывісцкага і марксісцкага вучэння аб тым, што існуюць быццам бы такія эвалюцыйныя законы, пры дапамозе якіх чалавек можа "ляпіць" навакольны свет у адпаведнасці са сваімі жаданнямі. Прыгадаем для прыкладу толькі знакамітую сентэнцыю К.Маркса аб тым, што філосафы да сённяшняга часу толькі тлумачылі свет, у той час як марксізм ставіць задачу яго змяніць. Ці не ў гэтай метафізічнай навацыі схаваны ўсе беды, якія выпалі на лёс XX стагоддзя, дзе бабкай-павітухай выступіла рэвалюцыйная тэорыя К.Маркса і яго паслядоўнікаў?

Каштоўнасць асобных традыцый — культурных, эканамічных, маральна-духоўных — у тым, што без іх існавання чалавек не ў стане быў бы пашыраць далягляд свайго развіцця. Прынцыповая адмова ад традыцый, іх радыкальнае адмаўленне дзеля надуманых уяўленняў аб крытэрыях разумнасці непазбежна вядуць да звужэння супрацьстаяння свету, штурхаюць грамадства ў прастору самаразбурэння.

На шчасце, працэс мастацкага сталення для маладых беларускіх пісьменнікаў, нягледзячы на неспрыяльны палітычны момант, адбываўся паскорана, чаму найперш садзейнічалі сама сацыяльна-драматычная і шмат у чым нават трагічная рэчаіснасць, а таксама індывідуальна-ўдумлівае ўгляданне ў працэсы жыцця і хуткае сталенне таленту сапраўдных майстроў слова. Нядоўгі перыяд умоўнага творчага адзінства арганізацыі "Маладняк" заканамерна пераходзіў у эвалюцыйны працэс якаснага вылучэння новых творчых задач, якія паўставалі перад мастакамі ў працэсе асваення свету. Называючы першапачаткова сябе сынамі сваёй зямлі, яны ўжо не маглі кіравацца толькі разумовымі сентэнцыямі "перадавой ідэалогіі", а скіроўвалі свой погляд на аб'ектыўныя факты і працэсы гістарычнага лёсу народа. А гэта давала магчымасць убачыць вялікі кантраст і неадпаведнасць паміж дэкларатыўнасцю лозунгаў і рэаліямі жыцця. Дадзенае разыходжанне працавала на тое, што пісьменнікі ўнутрана адчувалі неабходнасць пераарыентацыі на новыя ідэі і аўтарытэты ў сваіх поглядах на жыццё. І найперш гэта выяўлялася ў пераарыентацыі на плённыя традыцыі. Аўтарытэт традыцый тут трэба разумець не як жорсткую дэтэрмінацыю, а як спосаб, які ён даў, абапіраючыся на нацыянальны грунт, прыняць і канструктыўна перапрацоўваць шматвобразны і шматварыянтны мацярык беларускай рэчаіснасці. Бо, як вядома, культурная эвалюцыя поўнасцю не дэтэрмінавана ні генетычна, ні як-небудзь інакш, а найчасцей выражаецца ў паліфаніі полiварыянтнасці і ні ў якім разе не ў межах нават геніяльнай ідэі. Лозунг — "вучэнне Маркса вечнае, бо яно правільнае" ёсць асноўны стрымліваючы фактар усёй будучай савецкай эпохі. Маладыя таленавітыя беларускія пісьменнікі яго пераадолелі даволі хутка, бо актыўны пазнавальны інстынкт і творчая адоранасць не маглі мірыцца з фармалізмам статутных літаратурных пастулатаў. Арганізацыйная расхістанасць "Маладняка", яго частыя рэарганізацыі, а затым утварэнне літаратурнага аб'яднання "Узвышша" — яскравы прыклад грамадзянскага сталення творчай моладзі. Пісьменнікі "Узвышша", звярнуўшыся да аўтарытэту традыцыі з яе вызначальнымі арыенцірамі на філасофска-мастацкую аснову быту і быцця нацыі, за кароткі тэрмін высока ўзнялі маральна-этычную і эстэтычную планку беларускай літаратуры.

**Іван ШАЛАДОНАЎ**

**АПЕЛЯЦЫЯ**

*Шаноўныя чытачы, сёння мы друкуем ліст берасцейскай пісьменніцы Зінаіды Дудзюк. Гэта своеасаблівае рэагаванне на крытычную рэцэнзію Сяргея Грышкевіча "Ну і ню!" ("ЛіМ" ад 26.09.03г.), у якой наш пастаянны крытык паспрабаваў выявіць і графічна абазначыць этычныя і літаратурна-мастацкія выдаткі аповесці спадарыні Дудзюк "Пакаранне для Ноны", змешчанай на старонках сёмага нумара часопіса "Маладосць". Мажліва, гэта атрымалася ў яго занадта жорстка і суб"ектыўна, але, зазначым, — небеспадстаўна (чаму, між іншым, незламысна парадуемся, бо беларускай літаратуры заўжды бракавала некампліментарнай крытыкі).*

*Праўда і сама пісьменніца апелюе да выкрывальных развагаў Сяргея Грышкевіча гэткім жа некарэктным, калі не сказаць зневажальным, метадам (рэдакцыя зрабіла вынятку толькі ў адным месцы яе тэксту, дзе спадарыня Дудзюк пераходзіць да высвятлення асабістых adносінаў з крытыкам і тым самым пераступае межы акрэсленай тут гаворкі)... Націскаючы на неардынарнасць і нявыдуманасць сюжэтнай калізіі аповесці і запатрабаванасць падобнай тэматыкі пэўным колам чытацкай публікі, у рэшце рэшт, аўтар заводзіць нас у такі непралазны гушчар чалавечых эмоцый, дзе водгукам можа быць толькі рэха ўласнага голасу...*

*Зрэшты, выплеснуўшы слоўны кіпень і збольшага супакоіўшыся, напрыканцы свайго гнеўнага ліста Зінаіда Іосіфаўна амаль пагаджаецца з нашым крытыкам: "Рэцэнзію С.Грышкевіча я магла б успрыняць як належнае (кожны мае права на ўласнае меркаванне), каб не той гнюсны цынізм, які вымалёўваецца ў двух заключных абзацах тэксту".*

*Як бачна, яна ўсё ж разумее падаплёку непустапарожняй крытыкі спадара Грышкевіча. І гэта суцяшае. Мы не збіраемся наноў цытаваць тут экстравагантныя месцы з яе нежаночай прозы, каб трэцім наваратам не рабіць ёй рэкламы.*

*Няхай аўтара і крытыка рассудзяць нашыя чытачы. Дарэчы, рэдакцыя хацела б ведаць думку тых, хто ўважліва прачытаў усе закранутыя тут тэксты.*

*Адным словам, запрашаем да палемікі, якая можа выйсці і за межы абазначанай тут гаворкі.*

*Аддзел крытыкі*

# СІМПТОМЫ ПАТАЛОГІІ?

Допіс С. Грышкевіча "Ну і ню!", змешчаны ў "ЛіМе" ад 26.09.2003, парадаваў мяне ўвагаю і аператыўнасцю, але паколькі ў пачаткоўца ўзнікла некалькі пытанняў, дык я, аўтар аповесці-фарса "Пакаранне для Ноны", вымушаная на іх адказаць, тым больш, што мяне вельмі ўразіла стаўленне аўтара да свету наогул.

З першага радка сваёй рэцэнзіі С. Грышкевіч безапеляцыйна заяўляе: "Не люблю прозу пра каханне".

Увага! Паэты і празаікі, калі ласка, не закранайце гэтую тэму. Чуеце? Грышкевіч яе не любіць! Яго нудзіць ад вашых душэўных прызнанняў і парыванняў. Бадай, пасля такога выказвання, ніхто не здзівіцца, калі неўзабаве берасцейскі Герастрат прапануе спаліць усе кнігі беларускіх і сусветных класікаў, таму што яны таксама пра гэта.

Між іншым, каханне, як Бог! Яно існуе толькі для тых, хто ў яго верыць. Астатнія няхай адпачываюць.

Праўда, у наступным сказе С. Грышкевіч робіць удакладненне, бо разумее: сказаў нешта не тое. Ён тлумачыць, што асабліва не любіць жаночую прозу, "дзе ўсё наскрозь фальшывае і ненатуральнае. Пачынаючы ўжо ад самой задумы і заканчваючы тымі прыёмамі, праз якія яна вырашаецца". (Дарэчы, пачынаць трэба з задумы, а не ад задумы.) Юны "крытык" нават ярлычкі падрыхтаваў. Так што, шаноўныя пісьменніцы, закіньце свае пёры за печ, пакуль ён вам рукі не паадбіваў.

Між іншым, будучаму крытыку варта ведаць, што прозу нельга дзяліць, зыходзячы з палавых прыкмет, на жаночую і мужчынскую. Яе трэба разглядаць у іншым ракурсе: ёсць яна ці яе няма.

Здраджваючы маладому максімалізму, Грышкевіч у чацвёртым сказе адступае яшчэ на адзін крок і літасціва паведамляе: "Хаця, канечне, права на існаванне жаночая проза пра каханне мае, і тут нічога не зробіш — літаратуру сёння ў пераважнай большасці робяць прадстаўніцы "цудоўнай паловы чалавецтва".

Вось так, не ствараюць, не пішуць, а робяць, як цэглу на канвееры. Але дзякуй за ласку маладому "крытыку", што дазволіў існаваць. Бо без гэтага "цудоўнай палове" хоць кладзіся ды памірай. І тут раптам я лаўлю сябе на крамольнай думцы, ці не зайздросціць часам С. Грышкевіч гэтай самай "палове", якую, не варта пускаць і на парог рэдакцый, бо дастаткова пісьменнікаў-мужчын? Толькі паглядзіце на маладзіц! Распісаліся! Разышліся! Не спыніш! Смаляць і смаляць! Ды ўсё пра каханне! Як разгорнеш часопіс, ажно ў вачах цёмна ад іхніх публікацый!

Нягледзячы на негатыўнае стаўленне да жаночай прозы, тое-сёе С. Грышкевіча ў маёй аповесці ўсё ж усцешыла. Ён нават здолеў там адкапаць "модную ідэю", але не прамінуў здзекліва ўзважыць, што "тое, аб чым гавораць закаханыя, падобна да ахінеі нездаровых людзей; вядома ж, гармоны, позвы прыроды акумулююць схаваныя моўныя рэсурсы".

Напэўна, С. Грышкевіч "ахінею" плесці няздатны. Свае "моўныя рэсурсы" ён лепш на могілках закапае, чым прызнаецца нейкай дзяўчыне ў каханні, якога ніколі не было і быць не можа. Чаго гэтыя ёлупні кожную суботу вянчаюцца ды жэняцца, ездзячы па Брэсце ў расквечаных машынах? Вар'яты! Цікава, ці з'явіўся б на свет сам С. Грышкевіч, каб не было кахання?

Жарты жартамі, але чатыры ўступныя сказы рэцэнзіі выяўляюць псіхалагічную праблему, якая даймае С. Грышкевіча. Ён аскетычна спрабуе адгарадзіцца ад жыцця падкрэслена пагардлівымі і нават варожымі адносінамі да ўсяго пачуццёвага, якое яму здаецца брудным і нізкім. Юнак не проста кантралюе свае пачуцці, а імкнецца іх задушыць. Безумоўна, патрабаванні маральнай чысцінкі самі па сабе станоўчыя. Але іхняя гепертрафія, якую мы назіраем у выказваннях С. Грышкевіча, выклікае штучную самаізаляцыю, ганарыстасць, зайздрослівасць і нават нянавісць да людзей. Адсюль, у прыватнасці, і вынікае той брыдкі цынізм, якім завяршаецца ягоная рэцэнзія-фарс.

Учарашні выпускнік Брэсцкага педуніверсітэта С. Грышкевіч, з абурэннем цытуючы тэкст аповесці, заяўляе: "Але я, напрыклад, не веру, што вайсковец можа гаварыць звязнай, узвышана-паэтычнай мовай". На ягоную думку, усе нашы вайскоўцы два словы не звяжуць. Вымушана адказаць на гэтую заўвагу нашаму філолагу наступнае: амаль усе, за рэдкім выключэннем, айчынныя і замежныя паэты і празаікі (мужчыны XX ст.) служылі ў свой час у войску, некаторыя нават бралі ўдзел у розных войнах, але гэта ім не замінала пісаць узнёслыя вершы і паэмы, раманы і эсэ. Уяўляю, што падумала б Юлія Друніна, жанчына і паэт, калі б прачытала выказванні нашага "крытыка", бо і ёй давялося быць вайскоўцам на вайне, а потым кахаць, расчароўвацца, зноў кахаць і пісаць выдатныя вершы. Сказаў жа класік, што і пад шэрым шынялём можа біцца палымянае сэрца.

Не верыць "крытык" і ў тое, што гераіня аповесці не змагла разабрацца, за каго выходзіць замуж. Каб даказаць праўдзівасць майго сюжэта, вымушана адкрыць адзін жаночы сакрэт: самая вялікая драма некаторых дзяўчат у тым, што яны далёка не заўсёды могуць адрозніць сапраўднага мужчыну ад падробкі. Іншая яшчэ і навыдумляе будучаму мужу такія рыцарскія якасці, якіх ён зроду не меў. А потым здзіўляецца, як яна магла пакахаць такога монстра? На жаль, далёка не ўсе мужчыны да вяселля выяўляюць свой сапраўдны нораў. Адпаведна і ўсялякі хлопец таксама можа пралічыцца, выбіраючы спадарожніцу жыцця, а потым трываць жончыны капрызы і пакутаваць. Тут будзе дарэчы згадаць адну жыццёвую гісторыю: прыгажуня-студэнтка выйшла замуж за акрыленага паэта, які падаваў вялікія надзеі. За трыццаць гадоў сумеснага жыцця (кажу з яе словаў) ён павыбіваў ёй усе зубы. Але, яна яго кахае і цяпер. За што? Ні за што. Проста кахае і ўсё, бо каханне, як і творчасць, — гэта заўсёды вялікая праца душы, спасціжэння жыцця і чалавечай сутнасці.

На крытыцы, якая таксама мае непасрэднае дачыненне да творчасці, ляжыць вялікая адказнасць за ўменне адчуць і зразумець свой час, каб здолець прадбачыць не толькі далейшыя шляхі развіцця літаратуры, але і грамадства. На жаль, С. Грышкевіч яшчэ не навучыўся адрозніваць крытыку ад крытыканства. Разумею, што не варта чакаць ад пачаткоўца нейкага значнага плёну, але ж і пакідаць ягоную працу без увагі не трэба. (...)

Спрабуючы прааналізаваць маю аповесць, С. Грышкевіч вагаецца, як на растузаных шалях, кажа адно, а пасля сам сабе пярэчыць. То заяўляе, што для твора ўзята арыгінальная праблема, вызначае яго ідэю, а потым спахопліваецца (ці не перахваліў?) і заяўляе, што няўпэўнены, ці мае аповесць тую самую ідэю. З першых старонак успрыняў твор "як здзек над сабою" (дарэчы, па-беларуску трэба пісаць: здзек з сябе), але цікаўнасць перамагла, таму дачытаў да канца, не здолеў адарвацца. Ужо гэта для мяне гучыць як камплімент. Асабліва спадабалася ягоная заўвага, што ў творы немагчыма вызначыць час, калі адбываецца дзеянне. Сапраўды, гэта было ўчора, а можа з некім здарыцца заўтра пры нашай свабодзе нораваў. Такі сюжэт не прыдумаеш. Жыццё значна багацейшае за чалавечую фантазію. Гэтую гісторыю расказала мне адна даўняя знаёмая, якая мела вопыт такога замужжа. Прататыпы аповесці і да гэтага часу жывуць у тым жа маленькім гарадку. Цяпер ім за сорак. Мая знаёмая яшчэ раз выйшла замуж, гадуе дачку, якая сёлета пайшла ў першы клас. Прататып мужа транссексуала ўжо жанаты трэці раз. З новаю жонкаю быццам ладзіць, але вельмі не любіць яе дарослага сына, на парог кватэры не пускае і наогул ненавідзіць мужчын.

Сімпатычны маладосцю і наіўнасцю С. Грышкевіч паводзіць сябе, як капрызнае дзіця, якое адмаўляецца есці манную кашу. "Не люблю! Ненавіджу прозу пра каханне! Не паказвайце мне гэтую брыдоту!" — крычыць ён у прастору, не разумеючы, што гэта толькі ягоная праблема. Плюецца слоўнаю кашаю, лаецца і чакае, што будзе? Нічога не будзе. Сабака брэша, а караван ідзе.

Ствараецца ўражанне, што менавіта дзеля іх і крэмзаў "крытык" свой пасквіль. Што ж, гэта толькі дапамагло ўбачыць ягоны сапраўдны твар, хоць у пачатку рэцэнзіі ён і спрабаваў прыкідвацца крыштальна чыстым і цнатлівым хлопцам. Мусіць, можна зразумець, што юнак перажывае псіхалагічныя праблемы пераходнага ўзросту, які неапраўдана зацягнуўся, але дараваць знявагу цяжка. Застаецца спадзявацца, што некалі ён пасталее, паразумнее, навучыцца паважліва ставіцца да людзей, бо гэтага вымагае жыццё і ўмовы цывілізаванага суіснавання ў чалавечым грамадстве.

**Зінаіда ДУДЗЮК**

# ШЧЫРЫЯ ВЁРСТЫ СУСТРЭЧ

Зямля колішніх волатаў духу Скірмунтаў і Напалеона Орды з прыхільнасцю сустрэла пісьменнікаў Васіля Якавенку і Георгія Ліхтаровіча.

На творчых імпрэзах, якія адбыліся сярод мясцовай інтэлігенцыі ў мястэчку Моталь, затым у Янове — Іванаве і вёсцы Парэчча, што на Піншчыне, В. Якавенка прэзентаваў гістарычны раман "Надлом", а Г. Ліхтаровіч апавядаў пра сваю шматгадовую творчую працу фотамастаком ды чытаў вершы з "Агульнага сшытка" — уборыстага зборніка яскравай лірыкі, пранікнёнай і трапнай, асабліва калі гаварыць пра яе грамадзянскае гучанне. Размова ж далей шырылася і закранала гістарычны лёс Бацькаўшчыны.

Асаблівасцю гэтых літаратурных сустрэч было тое, што багата якія персанажы гістарычнага твора "Надлом" — рэальныя асобы і, як, напрыклад, сямья Пятра Рамановіча (Пісарчука), паходзяць адсюль, з Мотапя, Моладава, Парэчча, прычым некаторыя з іх жывуць і сёння і добра памятаюць тыя падзеі, у якіх бралі непасрэдны ўдзел разам з героямі рамана.

Станоўчае ўспрыняцце твора мотальскім людам не выклікала ніякіх сумненняў , наадварот, чуліся дзіваванне, захапленне, удзячнасць.

Ва ўзаемазацікаўленых публічных сустрэчах з пісьменнікамі ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі раённай улады — загадчыкі аддзелаў культуры і інфармацыі — Уладзімір Шэляговіч і Канстанцін Ваўрук. Дарэчы, яны неўзабаве пазнаёмілі беларускіх літаратараў са сваім паноўленым за апошнія гады, светлым і скрозь умаяваным кветкамі горадам.

Аддаючы даніну павагі гэтай зямлі, пісьменнікі ўсклалі кветкі да падножжа помніка Напалеону Орду, найвыдатнаму мастаку, графіку і музыку (скульптар І. Галубцоў), пабывалі на месцы яго пахавання, якое ў самы бурапомны час было зруйнавана, — цяпер там устаноўлены памятны знак, выкананы больш чым прыстойна.

Уладзімір Васільевіч Шэляговіч, дарэчы, з уласцівымі яму энергіяй і душэўным уздымам расказваў гасцям пра планы аднаўлення сядзібы Н. Орды ў вёсцы Варацэвічы. Мяркуецца адчыніць там музей і своеасаблівы культурна-асветны (магчыма, камерцыйны) цэнтр.

Госці ж перадалі аўтарскія і іншыя кнігі, пераважна экалагічнай тэматыкі, Іванаўскай раённай бібліятэцы імя Ф. Панфёрава, Мотальскай сельскай бібліятэцы, сярэднім школам у Моталі і вёсцы Тышкавічы, школе і літаратурнаму музею Яўгеніі Янішчыц у Парэччы. Тут, у прасторным класе, дзе зазвычай сядзела на ўроках Янішчыц, адбылася яшчэ адна сустрэча з настаўнікамі і вучнямі, дарэчы, у палявым рабочым адзенні — руліў выхад на бульбу... Пісьменнікі пакінулі свае даволі ўзрушаныя водгукі пра музей і яго экспазіцыю, падзякавалі спадарыні Антаніне Сідарук, цяпер — дырэктару школы, за такую добрую і пачэсную справу — ушанаванне памяці сваёй былой вучаніцы, якая з вясковай дзяўчынкі вырасла ў глыбока нацыянальную паэтку і грацыёзную знакавую фігуру ў беларускай літаратуры.

**Н. ДЗЯНІСАВА**

# ГІСТОРЫЮ НЕ ПЕРАПІШАШ

Як вядома, у пачатку 1990-х гадоў гістарычныя экспазіцыі большасці музеяў постсацыялістычных краін у сувязі з пераменамі, якія адбыліся ў грамадстве і адмаўленнем ад старых ідэалагічных парадыгм, былі дэманціраваны. Шэраг беларускіх і расійскіх музеяў, напрыклад, не чакаючы агульнага падыходу, стварылі новыя экспазіцыі, якія рознымі шляхамі адлюстроўвалі гістарычнае мінулае. Каб абагульніць назапашаны вопыт, знайсці аптымальны шлях да стварэння музейнай мадэлі гісторыі, на днях у Мінску супольнасць музеолагаў і гісторыкаў Беларусі, Расіі і Федэратыўнай Рэспублікі Германія правялі другую (у запланаваным цыкле) міжнародную навукова-практычную канферэнцыю. Падчас яе трохдзённай працы разглядалася праблема аб'яднання і каардынацыя высілкаў музейных работнікаў і вучоных трох краін у пераадоленні крызісу праектавання і стварэння гістарычных экспазіцый.

Выніковая канферэнцыя адбудзецца вясною 2004 года ў Берліне.

**Віктар ПАТАПЕНКА**



**Анатоль ЗЭКАЎ**



# ЕЎПАТАРЫЙСКІ СШЫТАК

## НА ПАЧАТКУ ЖНІЎНЯ

*У Еўпаторыі цьмянее*
*мо гадзіне а дзевятай.*
*Праўда, мора не нямее —*
*коціць хвалі зухавата.*

*Хвалі ліжуць бераг шэры,*
*як марожанае дзеці.*
*То ж забеглі на вячэру,*
*каб усмак пяску паесці.*

*Хваля хвалю падганяе,*
*падштурхоўвае у плечы.*
*Не прыкмеціш, як мінае*
*і у ноч сыходзіць вечар.*

## НАСТАЛЬГІЯ

*Сумую ў Крыме я па родным,*
*што сонцам свеціцца, бары.*
*Як без яго мне тут самотна —*
*няма з кім так пагаварыць,*
*як гаварыў я з їм, бывала,*
*і давараў сакрэты ўсе.*

*Стаіць мой бор, засумавалы,*
*і кроны — ў ранішняй расе.*
*А, можа, гэта і не росы,*
*як тое мроіцца, зусім,*
*а проста выступаюць слёзы,*
*што бор я прамяняў на Крым.*

## ВЫШЫНЯ

**Памяці Міхася РАСОЛЬКІ**

*Хоць жыць прыземлена не ўмею,*
*ды не хачу, аднак, маніць,*
*што я заўжды як бы нямею,*
*калі стаю на вышыні.*

*Быў на Ай-Петры і Эльбрусе*
*і ў горы іншыя хадзіў,*
*ды вышыні я ўсё ж баюся,*
*як больш нічога у жыцці.*

*На вышыні мне*
*дыскамфортна,*
*і, дзе б не быў я у гарах,*
*мяне пранізвае заўсёды*
*жывёльны падсвядомы страх.*

*Не прызнавацца б мог,*
*ды толькі*
*ніколі вышыні не сніў,*
*таму што ты,*
*Міхась Расолька,*
*сігнуў аднойчы з вышыні.*

•

*Ужо сціраецца за часам,*
*ды зрэдзь згадаецца,*
*калі*
*з табою побач,*
*хоць не разам*
*у Еўпаторыі жылі.*
*Як муж і жонка,*
*пэўна, збоку*
*камусь здавалася,*
*аднак*
*мы на адлегласці далёкай*
*былі з табой.*
*Чыя віна,*
*што лёс не выпаў быць*
*нам разам:*
*і ты адна,*
*і я адзін...*

*Усё сціраецца за часам.*
*І толькі гэты успамін...*

•

*Жанчына — мора.*
*Хвалі*
*накочвае з глыбінь штодня,*
*і можа гнеў яна суняць*
*хіба, калі пахваліш.*

*Аднак губу наўрад ці*
*табе раскатваць варта,*
*бо*
*ёй і з раскатанай губой*
*усё адно не ўладзіць...*

## ПЛЯЖНЫ ВЕРШ

*Пляж у Еўпаторыі*
*ля марской вады.*
*Гэта ж як на гора я*
*завітаў сюды.*

*Лежма на пясочку ўсе.*
*Колькі тут дзяўчат!*
*Так за дзень накосішся —*
*акасееш, брат!*

*З жонкай ці без жоначкі —*
*розніцы няма.*
*Просіцца у поначкі*
*кожная сама.*

*Хай сабе ва ўзросце ты*
*і цана ўжо грош,*
*зіркаеш, зайздросцячы,*
*на дзяўчат усё ж.*

*Плаваюць і пляжацца,*
*спеюць, як арэх,*
*што не грэх адважыцца*
*на любы тут грэх.*





# ТЭЛЕГОНІЯ

Негр быў яе ўзросту: хударлявы і невысокі, не мужчынскага складу, з маленькай галавой, ледзь не як у мікрацэфала, шыкоўнымі белымі зубамі і не тое што агідны і брыдкі, а наадварот — нават мілавідны, як дзяўчынка і ціхі — урэшце, можа, толькі ёй падалося спачатку. Хто з сябровак прывёў яго на тую вечарынку, яна не памятала, як і не памятала зараз нават імя таго маладзенькага негра, які чамусьці аказаўся з ёй.

Дэфларацыя адбылася неяк зусім не так, як яна ўяўляла, хаця сустрэчнае жаданне з яе боку было, так было. Але, наўрад ці яна пайшла б на гэта так неразважліва — акрамя натуральнага страху перад першым коітусам, быў яшчэ і страх перад бацькамі, асабліва перад самім бацькам, які цвёрда кіраваў усімі ў сям'і і якому безаглядна і пакорліва падпарадкоўвалася маці. "Кожны негр марыць пра белую жонку і аўтамабіль", — сказаў ёй неяк аднойчы ў гутарцы бацька і дадаў: "А яшчэ ён марыць, каб пладзіць дзяцей і жыць за кошт той жа белай жонкі, так што запомні гэта сабе на ўсё жыццё".

Негр быў студэнтам, вучыўся ў адным з вузаў сталіцы, але ў іншым чым яна, першакурсніца медінстытута. Неяк неасэнсавана для яе, яны апынуліся на балконе кватэры, пераабсталяваным пад пакойчык: там стаялі столік, зэдлік і месцілася канапа. Хлопец захапіў са стала паўбутэльскі віна, яны выпілі яшчэ і пачалі цалавацца. Дзесьці унізе пад імі, на вуліцы, ціха гулі рухавікі машын, было горача, яна распранулася, ці гэта яе распрануў хітры і настырны партнёр — тады ўсё і адбылося. Цяпер яна нават асэнсавана западозрыла, што не такі ўжо ціхі і рахманы быў той хлопец, і ці не падкінуў ён ёй тады ў віно якую адмысловую таблетку?

Нервуючыся, яна тады папрасіла толькі, каб хлопец ужыў кантрацэптывы, што ён і зрабіў, бессаромна і дэманстратыўна выкарыстаўшы прэзерватыў.

Прайшло больш як паўгода, наступіла пара экзаменаў, вучоба адымала ў яе шмат часу і яна на ўвесь гэты тэрмін забылася пра мужчын увогуле, як і пра свайго першага — цёмнаскурага хлопца, якога больш ніколі не бачыла і які нібы растварыўся ў вялікім і шумным мегаполісе.

А потым раптоўна, як сонечны ўдар, прыйшло каханне.

Яе нечаканы абраннік працаваў у бізнесе. Ён быў спартыўнага выгляду, на дзесяць год старэйшы за яе, высокі, з кароткай стрыжкай, упэўнены ў сабе мужчына, які мэтаскіравана вырашыў урэшце заснаваць сям'ю, і абраў яе, як ён запэўніў, адзін раз і на ўсё жыццё.

Яе бацьку ён таксама спадабаўся. Абодва хутка паразумеліся, і яна была шчаслівая. Таго, першага, яна выкрасліла з памяці і, урэшце, нават сама паверыла, што нічога такога ў яе ніколі і не з кім не было.

Даніла (так звалі яе абраніка) не прыспешваў яе з ложкам, казаў, што няхай усё будзе па-людску. Праз два месяцы яны згулялі вяселле, а яшчэ праз два яна адчула, што зацяжарыла.

І вось яна ляжала ў палаце раддома амаль што ў шокавым стане.

— Гэта не маё дзіця, не маё! — крычала яна.

Зайшла медсястра.

— Не маё! — зноў крыкнула яна ёй.

Медсястра падышла да яе, усутыч, паціснула плячыма і сказала жорстка, раўнадушна і стомлена.

— Вы ведаеце самі, што ваша. Памылкі з нашага боку не можа быць. На гэтым — усё, і — перастаньце крычаць. У свеце і так зашмат шуму!

Але яна і сама ў глыбіні падсвядомасці ўжо ведала — неверагоднае, што здарылася з ёй — праўда, і дзіця (гэта была дзяўчынка) яе. У момант выхаду плода яна не губляла прытомнасці, і яшчэ тады здзівілася, што ручка дзіцяці, якая з'явілася напачатку і матлялася ў паветры, нейкая ненатуральна чорная, але імгненная думка пра гэта прамільгнула і згасла. Пакуль дзіцё не прынеслі да яе, і яна не ўбачыла яго.

Праз тыдзень яе выпісалі, а яшчэ праз дзень Даніла сышоў ад яе, пакінуўшы яе з дачкой у кватэры, за якую яны яшчэ не паспелі заплаціць поўную суму, а ўнеслі толькі задатак.

Пасля таго, як ад яе адцураўся бацька, а следам за ім і пакорлівая яго волі маці, яна вырашыла скончыць жыццё, але самазабойства не ўдалося. У бальніцы яе "выцягнулі", вымываючы раз за разам са страўніка і арганізма ўсю тую колькасць барбітуратаў, якую яна здолела перадусім праглынуць.

Толькі пасля некалькіх гутарак з псіхіятрам, яна ўнутрана скарылася з сітуацыяй. Урач – пяцідзесяцігадовы мацак, якому яна расказала ўсё і пра чорнаскурага хлопца, таксама, здалёк, патлумачыўшы ёй, што па сусветнай статыстыцы, адзінаццаць працэнтаў законных бацькоў выхоўваюць не сваіх дзяцей, пяць-шэсць працэнтаў не ведаюць, а пяць — ведаюць пра гэта, частка з іх (так усё-такі здараецца) — пераблытаныя ці падмененыя ў раддамах дзеці, але...

Але, у яе выпадку, задуменна падвынікаваў ён, справа зусім іншая. А што гэта такое, і чаму яно адбываецца, не ведаюць дакладна пакуль і самыя "прасунутыя" вучоныя, і гэта, безумоўна, адна з шэрагу тых пагрозлівых таямніц, якія акаляюць чалавека з пачатку яго ўзнікнення на Зямлі.

Яшчэ ў пяцідзесятых гадах, дадаў ён, калі ў Маскве ўпершыню адбыўся міжнародны маладзёжны фестываль, то значна пазней у некаторых дзяўчат, якія мелі сексуальны кантакт з цёмнаскурымі іншаземцамі (калі б з такімі белымі як і мы, то эфект быў бы проста незаўважаны) і праз даволі працяглы час (а значыць цяжарнасць не магла адбыцца непасрэдна ад першага партнёра), калі яны выйшлі замуж, то раптам нарадзілі цёмнаскурых дзяцей. Тое ж назіралася раней пры вопытах і ў жывёл, у выпадках скрыжоўвання, напрыклад, зебр з канямі і г.д.

"Мяркую, — давёў ёй псіхіятр, — а я чуў пра гэта і таму кажу вам не зусім сваю думку, зачаткавасць падразумявае адначасовасць (у шкале асобных каардынат, пра якія мы анічога не ведаем) двух працэсаў: нашага біялагічнага і знешняга на ўзроўні, скажам так, матрыцы. Калі не адбываецца іх сінхроннасці, то далей усё развіваецца па двух шляхах: ці імпульс да зачатку двойчы (ці тройчы) даходзіць да матрыцы, ці адбываецца, як у вашым выпадку з'ява тэлегоніі, калі імпульс да зачатку стварае матрыцу ў іншым вымярэнні, але не даходзіць да яйцаклеткі (у прыватнасці, калі ўжываць контрацэптывы). У апошнім выпадку зачаткавасць нібы адкладаецца да чарговага біялагічнага коітуса, але ў яго выніку нараджаецца патомства з матрыцай, ужо раней створанай (ці "запісанай").

А гэта ўжо і носіць назву тэлегонія.

# З ЦЫКЛА «МІКРАПРОЗА»

## ТЭРЫТОРЫЯ ШЧАСЦЯ

Падкоп быў няглыбака пад зямлёй, але ўсё роўна цесны, брудны і цёмны. Дыхалася цяжка.

Паўзлі, як чарвякі, моўчкі.

Першым, асвятляючы шлях ліхтарыкам, поўз Праваднік, за ім адразу юнак.

— На клаўстрафобію не пакутуеш? — урэшце парушыў маўчанне Праваднік.

— Быццам не.

— Добра, але гэта не самае істотнае.

— А што — самае?

— Ворагі. Усе варагуюць з усімі. Як казаў старажытны філосаф: "цяпер надзеі няма нідзе" і прывяло нас да такога "вучэння пра шчасце і дабрачыннасць"... Хаця, і сто год таму — якая тут была надзея? Гэта пры першым-та Вялікім Выкідзе?

Праваднік спыніўся і паўабярнуў да суразмоўцы слаба асветлены твар, на якім бліснулі кроплі поту.

— А я дык пад зямлёй не вельмі, — дадаў ён. — Хочацца крыкнуць і ўскочыць на ногі, а — нельга. То-та і яно. Хаця — ужо хутка выхад.

Абодва асцярожна вылезлі з падкопу. Ярка асветленая паласа з некалькімі радамі калючага дроту і кібаргамі-ахоўнікамі на вышках апынулася ззаду. Яшчэ далей неба зрэдку асвятлялася далёкімі агнямі мегаполіса. Там ноччу на вуліцах палілі вогнішчы. Урэшце яны адтуль і прыйшлі: Праваднік і яго падапечны.

— Вось мы і на Тэрыторыі Шчасця, — сказаў Праваднік. — Праз гадзіну рассвітае, а пакуль адпачнём. Потым ты мне заплаціш і — расход. Можаш любавацца сваёй радзімай хоць да скону.

У Праваднiка быў безвалосы, гладкі, як у старажытнага акцёра Юла Брунэра, чэрап. Тонкая кашуля не хавала яго мускулістае тулава, а вопытнае вока заўважыла б, што касцяшкі рук былі ў наростах ад пастаянных практыкаванняў. На поясе вісеў доўгі нож у скураных похвах, а за плячыма арбалет. Праваднік вылучаў прыхаваную пагрозу і сілу.

— Вазьмі зараз, — сказаў яго суразмоўца і выцягнуў пулярэс. — Дарэчы, час расплаціцца. Дзякуй.

Гэта быў яшчэ даволі малады чалавек, амаль хлапчук. У адрозненне ад Праваднiка, густыя, коратка стрыжаныя валасы колеру зямлі тапырыліся на яго круглай галаве. Шэрыя вочы гаварылі аб розуме і спрыце. Як і Праваднік, ён быў аперазаны нажом у похвах.

— У цябе багата крэдытак, — асцярожна адзначыў Праваднік.

— Ну, не так і багата. Застаецца, хіба што, на яду і на білет на карабель, каб даплыць да дому.

— Калі ты да яго трапіш, — пасля роздуму заўважыў Праваднік.

— Не суроч, — юнак пераржагнуўся.

— Пабачыць Радзіму? — Праваднік не хаваў здзіўлення. — Ты не пабаяўся з'явіцца з-за акіяна? Сюды, на Тэрыторыю Шчасця?

— Так.

— Хіба там больш не Радзіма?

— Не. Мае продкі адсюль.

— А-а, — зморшчыўся Праваднік. — Я ўжо чуў. Ты з гэтых... як іх... бульбашоў?

— З тых самых, — сказаў юнак. — Толькі я жыву за акіянам.

— І там бульбашы перавяліся? Чаму паўсюль так? Навокал жывуць кітайцы, цюркі, татары, арабы, афрыканасы, гукі ці в'етнамцы, мурыны і ўсякія іншыя. А бульбашы са сваёй бульбашскай мовай — хіба што тут, на Тэрыторыі Шчасця. Дый іх засталася жменька.

Юнак сціснуў сківіцы.

Прадзед казаў дзеду, дзед — бацьку, бацька — мне: не было нам на нашай зямлі паратунку. Спераду адзін "брат" стаяў з наганам, збоку — другі з наркатам, а за спінай — трэці з нажом. Як мы падымаліся, дык і біў ззаду. Вось наша гісторыя.

— Бач ты, усе вінаватыя. А трэ было біць у адказ. Стварыць атрады смяротнікаў. Быў хоць адзін смяротнік? Дзіўна. Яшчэ сто гадоў таму бульбашоў налічвалася дзесяць мільёнаў. Дык няўжо аднаго не знайшлося.

— Прадзед казаў дзеду, дзед — бацьку, бацька — мне: смяротныя атрады былі ў час бітвы пад Крутагор'ем.

— Нешта я не чуў пра такую бітву.

— Яна адбылася дзевяцьсот год таму...

— Ну, рассмяшыў.

Космы туману плылі ў іх над галовамі. Крыкнула нейкая птушка, але змоўкла.

Урэшце, усіх нас чакае адно, — сказаў Праваднік. — Жор ідзе. А вось цікава: жывое можа існаваць толькі паядаючы такое ж — жывое. Чарвяк паядае лісце, рыба — чарвяка, — чалавек — рыбу, кібарг — чалавека, усіх — вірусы, ланцуг бясконцы... Ты павінен ратаваць сваё цела, каб не разабралі на органы.

— Так небяспечна?

— Тут гэта распаўсюджана. Выкралі чалавека і — разабралі. Канібалізм. Так што сачы за сваім целам.

— Ну, а ты — спытаў юнак, — ты хіба шмат забіваў?

— Вядома. Каго толькі я не мачыў: мурынаў, цюркаў, арабаў... Быў тут такі час пасля трэцяй Сусветнай — Вялікая Мачылаўка і Вялікі Галадамор.

— Дык што — тут няма законаў? — спытаў юнак. — Якія тут законы, на Тэрыторыі Шчасця?

— Звычайныя. Як і паўсюль. Асноўныя тры: не прагульвай лішняга (гэта значыць, больш таго, што маеш), не "стучы" і не паводзь сябе як жанчына — у сэнсе педэрасты. Хіба ў вас там, за акіянам — іншыя законы?

— Не зусім.

— А ты не баішся, што я "кіну" цябе ці ўвогуле пазбаўлю жыцця? — раптам спытаў Праваднік. — Чалавек слабы, і тут усякае здараецца — асабліва пасля Другога Вялікага Выкіду. Разборкі па зонах, па масці, па крыві...

— Не зарэжаш жа, як павярнуся спінай? — падумаўшы над яго словамі, сказаў юнак.

— Не зарэжу, — меланхалічна паабяцаў Праваднік.

Яны замаўчалі, назіраючы, як першыя, слабыя промні сонца працінаюць туман, выяўляючы кволыя кустоўі, зеляніну неўміручых дзьмухаўцоў і рэдкія дрэвы на асмужаным даляглядзе.

— Чаму такая назва — Тэрыторыя Шчасця? — спытаў юнак. — Хіба тут можна гаварыць пра якое шчасце, удачу ці поспех? У стокіламетровай "зоне"? Колькі тут кюры?

— Так празвалі. Пэўна, у сэнсе іроніі. Урэшце, сам пабачыш, — пакрывіўся Праваднік. – Я ўсё-такі хачу ў цябе спытаць іншае, — дадаў ён, — ты прыбыў сюды сапраўды дзеля таго, каб пабачыць Радзіму? Мэты ў людзей — самыя розныя. А праўду кажуць у апошнюю чаргу.

— Так, але чаму ты пра гэта пытаеш?

— Таму, што і я... з бульбашоў, — пасля працяглай паўзы нечакана сказаў Праваднік. — Мы аднай крыві. Толькі я адзін, і сам за сябе адказваю. Я не хачу паміраць у "зоне", няхай сабе і сярод супляменнікаў. Дый там ужо адны мутанты.

— Вось яно як абарочваецца, — пасля роздуму выціснуў юнак. — Што ж, дзякуй за інфармацыю. Тым не менш, я хачу пабачыць усё на свае вочы. Гэта — мая мэта. Чалавек без мэты — нішто. Хіба не так?

— Пара.

Праваднік ускочыў на ногі.

— Цяпер слухай, — сказаў ён. — Праз гадзіну хады будзе мяжа. Але яна ўжо не ахоўваецца. Да поўнага ўсходу сонца ты пройдзеш яшчэ кіламетраў дзесяць. Трымайся паўднёвага напрамку. І беражы цела.

— Так, зразумеў.

— Ну, удачы. Пэўна, больш не ўбачымся. Там яшчэ, у іх пасёлішчы на трубе такая штука з кужаля вісіць, сцяг называецца...

Знойдзеш...

**Юры СТАНКЕВІЧ**



## АНТЭНА

У кожным горадзе, нават самым малым, заўсёды знойдуцца некалькі чалавек, якія ўяўляюць пэўны інтарэс у тым ці іншым аспекце і інтарэс той яны звычайна не афішуюць і на чужыя вочы не надта выносяць.

Адным з такіх людзей быў аўдытар Пётра Клейн.

Нельга сцвярджаць, што Пётра Клейн любіў сваю прафесію (па адукацыі ён быў эканамістам), але аўдытарства дазваляла яму зарабляць неблагія грошы, вядома, калі яго імя ўжо мела такую-сякую рэкламную значнасць, а Клейн у гарадскім фінансавым свеце карыстаўся трывалай і ўстойлівай рэпутацыяй, — вось ён і мог дазволіць сабе не быць "падвязаным" да якой фірмы і сядзець там з раніцы да вечара, а быць нечым накшталт вольнага мастака. Харошы аўдытар, які прафесійна адукаваны падгоніць паперы, "абсячэ фінансавыя "хвасты" і "вушы" перад такім небяспечным стварэннем, як падатковая інспекцыя і тым самым зберажэ фірме капітал, каштуе дорага. Адна такая праверка, на якую аўдытар Клейн вырываў са свайго жыцця некалькі дзён, давала яму магчымасць бязбедна праіснаваць месяц, а то і два, а мог бы і больш, часам меркаваў ён. Клейн быў усё-такі даволі сціплым і ашчадным чалавекам.

Раз-пораз аўдытар Пётра Клейн дазваляў сабе разгрузачны шпацыр па прыгараднай лесапаласе. Прафесія вымушала яго захоўваць ясны розум і свежую галаву з нармальнымі сасудамі, інакш ён доўга не вытрымаў бы: мець справу з бясконцымі лічбамі — каго хочаш выб'е з сядла.

Дык вось аднойчы ў лесе, на новаспечанай звалцы, аўдытар Клейн знайшоў... антэну. Бралася ўжо на восень, лісце на дрэвах пачало асыпацца, смецце перамешвалася з ім пад нагамі, але ён заўважыў круглы прадмет невялікіх памераў (з веласіпедную "зорку", на якую надзяваецца ланцуг). Ад прадмета адыходзіў і матляўся атожылак, на канцы якога было нешта накшталт штэкера. Усё гэта аўдытар Клейн добра разгледзеў і забраў з сабой.

Прадмет з гутаперчавым атожылкам-"апендыксам" сапраўды заканчваўся штэкерам, чым жа яшчэ, раздумваючы над знаходкай, меркаваў аўдытар Клейн. Сама антэна — а што, як не яе трымаў ён у сваіх руках, — была надзвычай лёгкая, з незнаёмага, на першы погляд, металу, з зубчыкамі, унутры якіх бачныя былі ўклапіны крышталепадобнай формы.

Аўдытар Клейн прынёс антэну дамоў і падключыў да тэлевізара — штэкер, хаця і з патугай, але стаў на месца. Ён сеў у крэсла і пстрыкнуў пераключальнікам. Экран нейкі час свяціўся, але раптам на ім узнікла выява квартала, у якой Клейн з цяжкасцю і здзіўленнем пазнаў знаёмае месца, дзе ён нарадзіўся і існаваў да цяперашняга часу, хіба што месца гэта было перасунута ў мінулае. На экране ён убачыў вуліцу мінулага дзесяцігоддзя, па якой хадзілі людзі, апранутыя па леташняй модзе, ездзілі аўто, якія зараз ужо наўрад ці сустрэнеш на дарогах, прамільгнула і сышла з кадра суседка, яшчэ зусім маладая, якая даўно, як ён ведаў, памерла, але Клейн пазнаў яе па радзімцы на твары.

Ён папстрыкаў пераключальнікам, але на ўсіх праграмах было аднолькавае: выява квартала. Аўдытар Клейн пачакаў яшчэ, а потым выцягнуў штэкер і пераключыўся на сваю, хатнюю антэну. У вушы адразу ўварваліся істэрычна-бадзёрыя галасы з рэкламнага роліка пра нейкі сродак ад перхаці. Дзіўна, вырашыў ён, і выключыў тэлевізар.

Некалькі дзён Пётра Клейн не падыходзіў да сваёй знаходкі і нават не ўспамінаў пра яе, пакуль не пачаў у кватэры некаторыя нязначныя перастаноўкі і дробны рамонт. Давялося вырашаць пра антэну: выкінуць малапрыгодную рэч адразу на антрэсолі ці спачатку паказаць яе знаёмаму тэхніку-інжынеру. Аўдытар Клейн падумаў і на ўсялякі выпадак вырашыў зноў падключыць антэну да тэлевізара.

Паўза.

На экране зноў узнік знаёмы з дзяцінства квартал. Раптам Клейн уздрыгнуў ад нечаканасці: ён убачыў сябе малога, з ранцам за спінай і, пэўна, на шляху ў гімназію.

План стаў буйны, і Клейн пабачыў сябе пасталеўшым, студэнтам, з былой жонкай, потым з дачкой, цяперашняга і — нечакана — у ложку, з ненатуральна адкінутай галавой, але тут экран зацямніўся, а потым на ім зноў працягвалася звыклая чалавечая мітусня.

Клейн устрывожыўся: што там было, на экране, чаму яго выява? Ён папстрыкаў яшчэ пераключальнікам, але безвынікова, і праз некалькі хвілін увогуле выключыў тэлевізар.

●

Якраз праз нейкі час яго запрасілі праверыць фінансавыя дакументы адной фірмы ў суседнім горадзе, і аўдытар Клейн паехаў туды на некалькі дзён. Вярнуўся ён увечары на пачатку выходных, і яшчэ на вуліцы са здзіўленнем убачыў, што ў яго акне гарыць святло. "Дачка з зяцем прыехалі", — здагадаўся ён. Зяць, з "новых", працаваў за мяжой і вёў свой бізнес. Наколькі ўдала — Клейн не ведаў, але меркаваў, што няблага. У маладых быў запасны ключ ад яго жытла.

Ён пазваніў, і сапраўды дзверы адчыніла дачка, і адразу пасля яе прывітальных пацалункаў да яго выйшаў зяць. Ён усміхнуўся і моцна паціснуў Клейну руку, назваўшы яго бацькам.

— Дарэчы, бацька, — сказаў ён, — я тут табе ад нас з жонкай зрабіў падарунак, набыў "талерку" да твайго апарату. Ужо замацаваў. Бярэ сорак восем праграм. Ну, як?

Аўдытар Клейн знерухомеў.

— А старая антэна? — спытаў ён. — Дзе яна?

— Выкінуў на сметнік, — сказаў зяць. — Трэба ж было цябе парадаваць. Ну, як?

Паўза.

— Дзякуй, — урэшце адказаў Клейн і паспяшаўся зрабіць радасны выгляд. — Вельмі ўдзячны, анягож.

Пасля багатай вячэры ўсе разам глядзелі тэлевізар: перадавалі пра моцны цыклон, магнітныя ўзрушэнні, урэшце маладыя пачалі гойсаць па ўсіх праграмах, пакуль не патрапілі на нейкі трылер. Клейн развітаўся і пайшоў спаць.

●

Раніцай першай прачнулася дачка і пабудзіла мужа. Яна зрабіла сняданак, падрыхтавала стол і пайшла за бацькам. Яна пастукала, але гаспадар не азываўся, урэшце, жанчына, счакаўшы, увайшла ў пакой, і ўбачыла яго ў ложку, нерухомага, з ненатуральна адкінутай галавой.

# А Ў НАШЫМ ТЮГу СВЯТА

Шмат гасцей 1 кастрычніка сабраў Тэатр юнага гледача. У тэатры свята. Роўна сто гадоў таму нарадзілася выдатная жанчына, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, заснавальніца і першы галоўны рэжысёр гэтага тэатра Любоў Іванаўна Мазалеўская...

Любоў Іванаўна Мазалеўская — асоба вядомая ў тэатральных колах. І, напэўна, не трэба дэталёва распавядаць пра яе жыццёвы і творчы шлях. Прыгадаем толькі, што ў 1922 г. Любоў Іванаўна паступіла на вучобу ў Беларускую тэатральную студыю ў Маскве. А потым працавала ў БДТ-2 (зараз вядомы ў рэспубліцы Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа), які быў створаны ў Віцебску з выпускнікоў студыі. Падчас вайны Любоў Іванаўна была на фронце ў складзе брыгады тэатра. Пасля вайны скончыла Аддзяленне ўдасканалення рэжысёраў Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва імя Луначарскага ў Маскве. І зноў Коласаўская сцэна, толькі цяпер у якасці рэжысёра, дзе яна паставіла 13 спектакляў. У 1952 г. Любоў Іванаўна з мужам — акцёрам Паўлам Малчанавым прыехала ў Мінск. Тэатр імя Янкі Купалы... ТЮГ...Прыпынемся... Любоў Іванаўна ў 1955 г. арганізавала Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача і гэты тэатр стаў для яе жыццём, сэрцам.



...На сцэне — ветэраны тюгаўскай сцэны, артысты першай трупы ТЮГа: заслужаныя артысткі БССР Людміла Цімафеева і Рыма Маленчанка, артысткі Людміла Барташэвіч, Маргарыта Міцкевіч, Галіна Раеўская, Клара Мізгайла, Зінаіда Паўлоўская, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Барыс Барысёнак і Эдуард Гарачы, артыст Уладзімір Унукаў, народны артыст Беларусі Міхаіл Пятроў... Сёння ў зале знаходзяцца шмат выхадцаў з ТЮГа (народны артыст Беларусі, кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў і народны артыст Беларусі, кампазітар Сяргей Картэс). Артысты спяваюць ўрывак з песні са спектакля «Папараць-кветка» паводле п'есы Івана Козела, таленавітага драматурга, якому ў свой час Мазалеўская вельмі дапамагла зацвердзіцца на творчай ніве. Гэты спектакль многа год быў своеасаблівай візітоўкай тэатра, тюгаўскай «Паўлінкай». У гэты вечар прагучыць шмат слоў пра Любоў Іванаўну. Артысты ўспомняць пра Мазалеўскую, што яна была надзіва моцная асоба, нескароная, але з другога боку — вельмі пяшчотная, псіхолаг, чалавек, які разумеў, спачуваў і спагадаў людзям, «маці» маладых акцёраў. Менавіта такім бачыцца вобраз дзіцячага рэжысёра. І, канечне, падчас вечарыны будуць павіншаваны і артысты-тюгаўцы — прадаўжальнікі традыцый, якія заклала таленавітая Л.Мазалеўская.

Сёння ТЮГ — гэта адзін з вядучых тэатраў краіны і першы, адзіны тэатр для дзяцей. У тэатры працуюць выдатныя людзі, таленавітыя акцёры. І пацвярджэннем гэтаму былі ўзнагароды ад Міністэрства культуры РБ, якія ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў першы намеснік міністра культуры РБ Уладзімір Рылатка. Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Улашчанка быў узнагароджаны ганаровым знакам за асабісты ўклад у развіццё беларускай культуры. Ганаровыя граматы ад Міністэрства культуры і ТЮГа атрымалі галоўны мастак ТЮГа Ларыса Рулёва, вядучы майстар сцэны Іван Шрубейка, начальнік рэквізітарскага цэха Раіса Ступанова. Усе гэтыя людзі былі аддзячаны за шматгадовую плённую працу ў ТЮГу, за адданасць тэатру, за ўнесены ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

Другой часткай свята было выдатнае гумарыстычнае прадстаўленне ад маладых артыстаў ТЮГа — своеасаблівае пасвячэнне ў тэатральнае жыццё. А напрыканцы галоўны рэжысёр тэатра і дырэктар раздалі маладым артыстам іх будучыя ролі ...

Калі ў тэатра ёсць такая гісторыя, выдатны калектыў, калі прыходзіць таленавітая моладзь, то ў яго ёсць будучыня. Поспехаў, табе, дарагі наш ТЮГ!

**Зміцер КАРМАЗІН**

*НА ЗДЫМКУ: Л. МАЗАЛЕЎСКАЯ*

КІНО



# ЗАРАД ДАБРЫНІ

***Сёлета ўлетку на кінастудыі "Беларусьфільм" паспяхова завяршылася работа над мастацкім фільмам "Сукенка для балю". У апошняе дзесяцігоддзе на кінастудыі здымалася няшмат фільмаў, амаль кожны з іх можна лічыць пэўнай з'явай. Карціна "Сукенка для балю", як мне здаецца, знамянуе трывалае вяртанне нацыянальнага кінематографа да традыцыі стварэння якасных фільмаў для дзяцей.***

Бо, як вядома, яшчэ з пасляваенных часоў у кінапрасторы СССР досыць высока каціраваліся зробленыя на нашай кінастудыі "ваенныя" і "дзіцячыя" карціны.

Запушчаны ў вытворчасць у мінулым годзе фільм каштаваў менш за 300 тысяч долараў. Для прыкладу, каштарыс аналагічнай карціны на "Масфільме" складае не менш 1,5 млн долараў. Аднак на экране зусім не відаць, што здымачная група са скуры вылузвалася, каб стварыць за мізэрны кошт прыгожае відовішча. Заслугоўваюць высокай ухвалы намаганні мастака-пастаноўшчыка Ігара Тапіліна, які "з нічога" стварыў шыкоўныя інтэр'еры, і мастака па касцюмах Алы Грыбавай, якая беззаганна ахвяравала ўласным гардэробам, каб героі на экране выглядалі файна апранутымі.

У выніку атрымалася маляўнічая казка, прэм'ера якой запланавана на 17 снежня, Дзень беларускага кіно. Пакуль фільм бачылі толькі выбраныя журналісты. Найперш трэба зазначыць, што сюжэт гэтай каляднай байкі, прыдуманай беларускім кінадраматургам Фёдарам Коневым, выдатна адлавядае дзіцячым уяўленням пра злосць і дабрыню, здраду і сяброўства, сквапнасць і дабрачыннасць. У нечым сцэнарый грунтаваўся на спрадвечным сюжэце пра Папялушку: прыгожую дзяўчынку спрабуюць маральна зламаць, але яе цвёрдая воля і вера ў дабрыню у рэшце рэшт перамагаюць. Галоўнае, наколькі ўдала традыцыйны сюжэт аказаўся напоўнены сучаснымі рэаліямі. А меркаваць пра гэта можна па ўласных адчуваннях — атрымала душа зарад дабрыні або не? Карціна сцвярджае: злосць, прагнасць і бяздушнасць займаюць шмат месца ў нашым жыцці, шмат псуюць нерваў і здароўя, але яны — не ўсемагутныя. Усімі гэтымі якасцямі ў поўнай ступені надзеленыя галоўная адмоўная гераіня Клаўдзія (ролю гэтай сцярвозы пераканаўча грае Марына Магілеўская) і яе злосная дачка (Віялета Несцяровіч). Але ж трэба ўмець распазнаваць гэтыя якасці пад маскай звычлівага клопату і паказной бяды. Якраз гэта не магла зрабіць мяккая і прастадушная Зоф'я Іванаўна (Таццяна Баўкалава). І варта не азлабляцца на свет і людзей, калі ад непрыемнасцяў, якія шчодра сыпяцца адна за адной, здаецца, жыць не хочацца. Бо калі ў сэрцы захаваецца дабрыня — абавязкова побач з'явіцца той, хто дапаможа і абароніць. У дадзеным выпадку — гэта прасунуты юзер Міця (Мікалай Раеўскі), які дапамагае і галоўнай гераіні Віцы (Алёна Барушка), і яе сапраўднай маці Ніне Віктараўне (Анастасія Немаляева).

У адрозненне ад стандартных сюжэтаў многіх амерыканскіх фільмаў, дзе галоўных злодзеяў часцей за ўсё забіваюць нейкім мудрагелістым чынам, у "Сукенцы для балю" адмоўныя героі хоць і атрымалі маральную паразу, але ж нікуды не знікаюць і, можна не сумнявацца, будуць шкодзіць і далей. У фінальнай сцэне балю, куды Віка прыходзіць у белай сукенцы, а Міця галантна танцуе з ёй, і ствараецца адчуванне, нібыта дзеці гэтае духоўнае святло выпраменьваюць. А мо, усяму віной апаратарскае майстэрства Аляксандра Абадоўскага, якое таксама заслугоўвае высокай ухвалы.

У пастаноўцы "Сукенка для балю" апраўдала сябе новая палітыка кіраўніцтва "Беларусьфільма" — над мастацкім фільмам працуюць "у пары" малады і сталы вопытны рэжысёр. Малады аваладвае майстэрствам здымаць "вялікі метр", вопытны — удасканальвае свой метад і падстрахоўвае працэс кінавытворчасці. Фільм паставілі Маргарыта Касымава, якая распрацоўвае дзіцячую тэматыку на "Беларусьфільме" з часоў "Маленькага байца" і "Зоркі Венеры", ды Ірына Волах, якая пасля шэрагу цікавых дакументальных стужак нарэшце дэбютавала ў мастацкім кіно.

Калі не лічыць дробных недахопаў (кшталту таго, што невыразную музыку Яўгена Крылатава можна залічыць у шэраг "музычных шпалераў", а фінал карціны, у адрозненні ад таго, як было напісана ў сцэнарыі, выглядае "змазаным"), дык можна меркаваць, што "Сукенка для балю" — фільм, які можа годна прадстаўляць нашу краіну на фестывалях і кінарынках. Дарэчы, папярэдні фільм Маргарыты Касымавай "Зорка венера" быў набыты ў 65 рэгіёнах Расійскай Федэрацыі. "Сукенку для балю" таксама плануецца прэзентаваць на бліжэйшым Маскоўскім кінарынку. Дык можна спадзявацца, што нарэшце "Беларусьфільм" верне страчаныя калісьці пазіцыі вытворцы кінапрадукцыі для дзяцей. Хацелася б верыць, што дзіцячае кіно стане той "залатой жылай", якая выцягне "Беларусьфільм" са стану "малакарціння", у якім студыя знаходзіцца другое дзесяцігоддзе.

**Ягор ЛЮБАВІН**

ТЭАТР

***15 верасня ў Мінскім драматычным тэатры "Дзе-Я?" адкрыўся новы тэатральны сезон. У пачатку бягучага года ў карыстанне менавіта гэтага тэатра быў аддадзены ўвесь будынак кінатэатра "Радзіма". З новага сезона ў абноўленым не без дапамогі муніцыпальных уладаў тэатры "Дзе-Я?" пачалі працаваць і рэпетыцыйная зала, і пастаянны рэжысёр, выпускнік курса Б. Луцэнкі М. Нупрэйчык, а таксама першая ў Беларусі, па-свойму унікальная, тэатральная школа, заняткі ў якой распачаліся якраз 15 верасня. Як паведаміла аглядальніку "ЛіМа" загадчыца літаратурнай часткі тэатра Л. Лявонава, навучэнцы школы (а іх усяго 30 чалавек) акрамя вучобы мусяць убачыць стварэнне спектакля на ўсіх этапах: ад чыткі п'есы да прэм'еры, быць задзейнічаны ў масоўцы рэпертуарных спектакляў, якім з нядаўняга часу з'яўляецца спектакль "Рамантыкі" ў рэжысуры Аляксандра Гарцуева.***

# НЯМА АПОВЕСЦІ СУМНЕЙ НА СВЕЦЕ

...Рэжысёрскі почырк А. Гарцуева ўжо добра прыкмячаецца. Хаця, хутчэй не рэжысёрскі почырк, а рэжысёрскія схільнасці да рамантычных сюжэтаў з сумнымі, узрушаючымі фіналамі, расчараваных (пераважна ў каханні) герояў, летуценнай музыцы Майкла Олфілда... Новы спектакль у тэатры "Дзе-Я?" зроблены па лякалах знакамітых пастановак на купалаўскай Малой сцэне (прынамсі, "Трышчана ды Іжоты" і "Брата майго, Сімана..."). Класічная камедыя Э. Растана "Рамантыкі" ў творчай лабараторыі А. Гарцуева ператварылася ў трагікамічныя сцэны з жыцця (ці суіснавання) бацькоў і дзяцей, якія, нягледзячы на бег часу, больш не разумеюць, чым разумеюць адзін аднаго. (Увогуле, гэты рэжысёр любіць ствараць на сцэне сітуацыю, калі знутр спакойнага, нават камічнага аповеду нечакана прарываецца неверагодная трагедыя.)

Вядома, з Лёсам лепш не жартаваць. Невыпадкова А. Гарцуеў уводзіць у свой спектакль абстрактныя персанажы — маскі, якія не толькі змяняюць палажэнне бутафорскіх прадметаў на сцэне (а з іх, дарэчы, у сцэнічнай прасторы толькі сцяна), а ўсе разам з'яўляюцца і адным з персанажаў — Лёсам. Канечне, з боку спадароў Паскіно (І. Падлівальчаў) і Бергамэна (І. Мікалаеў) было даволі саманадзейна ажаніць сваіх дзяцей, уцягнуўшы іх, наіўных і чыстых, у небяспечную гульню ў шэкспіраўскія жарсці. Бо сын Бергамэна Персінэ (А. Кавалевіч, Р. Падаляка) і дачка Паскіно Сільвета (Ю. Сурмейка, В. Скварцова), упэўненыя ў злоснай варожасці бацькоў адзін да аднаго, уявілі сябе Рамэо і Джульетай. Двума няшчаснымі закаханымі, што сустракаюцца ўпотайкі ля сцяны, умоўна падзяліўшай іх сем'і. Паскіно і Бергамэну, якія насамрэч даўно сябруюць, такая сітуацыя падаецца даволі **рамантычнай.** Але ці магчыма штучным чынам узгадаваць у сэрцы каханне ці прыўнесці ў жыццё рамантыку і тым больш разыграць гісторыю Рамэо і Джульеты з шчаслівым фіналам? Рэжысёр пакідае сваіх герояў у горкім расчараванні, роспачы...

Як мне падалося, усё сцэнічнае дзеянне метафарычна нагадвае наш свет. Зноў жа невыпадкова А. Гарцуеў выкарыстоўвае музыку М. Олфілда з альбома "Міленіум" ("Тысячагоддзе"), а акцёры мусяць увасобіць розныя тыпы людзей (прынамсі, Бергамэн — бравы ваяка, Паскіно — высакародны інтэлігент, Сільвета і Персінэ — юнакі нібыта з нашага часу, асабліва, калі акцёр А. Кавалевіч выходзіць на сцэну ў джынсах і кедах) — усё гэта робіць "Рамантыкаў" Э. Растана сучаснымі, ідэйна (ды вонкава) блізкімі гледачу.

І ўсё ж "Рамантыкі" — гэта першая пастаноўка А. Гарцуева на сцэне тэатра "Дзе-Я?". Не ўсе мізансцэны, асабліва пераходы ад камічнага да трагічнага, смерці юнакоў выглядаюць прадуманымі (нават адчутымі) да канца. Часам, здаецца, што і самі акцёры (асабліва І. Падлівальчаў і І. Мікалаеў, якія вядуць свае ролі цудоўна імправізуючы) скептычна ставяцца да пэўнага сцэнічнага дзеяння, адчуваючы схематычнасць рэжысуры. Але іх акцёрскае абаянне, гульня з гледачом, тонкая лірычнасць (цяпер ужо Ю. Сурмейка і А. Кавалевіча) набліжаюць "Рамантыкаў" да нягоршых традыцыйных спектакляў новага часу...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



*НА ЗДЫМКУ: сцэны са спектакля "Рамантыкі".*

*ФОТА К. ДРОБАВА*

МУЗЫКА

**Да нядаўняга часу Міжнародны дзень музыкі ў нашай сталіцы адзначаўся па-святочнаму. Менавіта ў гэты дзень, 1 кастрычніка, урачыста адкрывала свой чарговы сезон Беларуская дзяржаўная філармонія. Першы канцэрт сезона быў, канечне ж, сімфанічны. І ў праграме побач з узорамі сусветнай класікі абавязкова гучаў новы аркестравы або вакальна-сімфанічны твор аднаго з беларускіх кампазітараў... Тут застаецца толькі цяжка ўздыхнуць ды выгукнуць: "Няма таго, што раньш было!" Будынак Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў стадыі завяршэння капітальнага рамонту. І сталічным завсёднікам жывых акустычных імпрэзаў ды меламанам-гасцям давядзецца невядома колькі чакаць, калі пасля грунтоўнай рэканструкцыі галоўная канцэртная зала краіны прыме сваю публіку. (Падчас адной з нядаўніх сустрэч з журналістамі міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка паведаміў, што творчыя калектывы БДФ, раскіданыя цяпер па Мінску, вернуцца ў родныя сцены з пачаткам ацяпляльнага сезона.)**

# УСЁ НА ЎЗРОЎНІ?..

Што ж, Міжнародны дзень музыкі ў беларускай сталіцы сёлета не парадаваў аматараў вялікіх сімфанічных праграм. Аднак філарманічны сезон у Мінску адкрыўся: крыху раней і даволі ўрачыста.

Адбылося гэта 22 верасня ў Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі. На сцэне ўвесь вечар быў наш Акадэмічны сімфанічны аркестр на чале са сваім галоўным дырыжорам Аляксандрам Анісімавым.

Адкрыццём праграмы была прэм'ера 11-й сімфоніі аднаго з лідэраў сучаснай айчыннай кампазітарскай школы Дзмітрыя Смольскага. Новы твор — кампактны, дынамічны, яркі (эфектных фарбаў аркестроўкі выкарыстана багата і ў меру) — ўспрымаўся як новая старонка сімфанічнага расповеду кампазітара пра ўласны ўнутраны свет. Што чуласі ў гэтым расповедзе? Пэўна, гучалі тут зноў вечныя пытанні, на якія не знаходзіш адказаў у зямным жыцці; уяўляліся "блуканні па пакутах" ад жаху будзённасці: трагічнай, пошлай, бессэнсоўнай; маляваліся вобразы агрэсіўнай шарачковасці ды засмужанага святла. Дзіўна, ды чамусьці разам згадаліся "Рамэо і Джульета" П. Чайкоўскага, ўмомант зрабіліся "старэйшынамі"...

Другое аддзяленне канцэрта цалкам прысвячалася выкананню музыкі вялікага прадстаўніка нямецкага рамантызму Рыхарда Вагнера. Прагучала І дзея оперы "Валькірыя" з унікальнай тэтралогіі "Пярсцёнак нібелунга". Трыумф опернага сімфанізму! Вакальныя партыі бліскуча выканалі нашы госці: выдатная расійская спявачка, сапрана, Ірына Крыкунова ды сусветныя знакамітасці — брытанскі тэнар Робін Легейт і амерыканскі баспрафунда Дэніел Льюіс Уільямс. (Летась Р. Легейт і Д. Л. Уільямс удзельнічалі ў канцэртным выкананні вагнераўскай тэтралогіі ў Ірландыі ды Англіі пад кіраўніцтвам А. Анісімава.)

Эмацыянальнай кульмінацыяй для нашага сімфанізм Д. Шастаковіча ды "Варыяцыі (з беларускім менталітэтам)" самога Д. Смольскага. У аркестры ж неяк нахабна разгойдваўся матыў вядомай песні пра "тонкую рябину", якая марыць "к дубу перебраться", каб не "гнуться", не "качаться". А потым яшчэ выскачыў з нетраў аркестравай фактуры "Цыплёнок жареный". І знік...

Сімфонія празрыстых і гнуткіх алюзій выклікала гарачыя воплескі ў зале, неадназначныя меркаванні ў кулуарах. А яшчэ — настроіла на філасофскі лад: яе прэм'ера прагучала ў дзень, калі хавалі Анатоля Багатырова, заснавальніка сучаснай беларускай кампазітарскай школы, настаўніка ці не ўсіх яго маладзейшых калег, якія аркестра (і для большасці гледачоў) у нейкім сэнсе стаўся фінал першага аддзялення праграмы: знакамітае "Балеро" Марыса Равеля. Гэта класіка музычнага імпрэсіянізму, або проста — папулярная сусветная класіка, што называецца, беспройгрышны нумар. Па-канцэртнаму эфектная музыка "заводзіць" публіку, ну а для дырыжора... А для дырыжора ёсць магчымасць парадаваць і аркестр, бо партытура "Балеро", багатая на яркія сольныя эпізоды, — гэта шанц раскрыцца шэрагу музыкантаў у якасці выканаўчых індывідуальнасцяў. (Праўда, некаторым духавікам давялося гэтым разам шчодра прыпраўляць свае пявучыя сольныя фразы вульгарнымі "кіксамі", і на тую бяду з праграмкі, дзе пералічваліся ўсе салісты "Балеро" і нават склад аркестра цалкам, можна было даведацца імя "аўтара" кожнай гукавой кляксы.)

Які б уражлівы ні быў першы сімфанічны вечар сёлетняга сезона, ды на гэты час ён ужо трошку падзабыўся. Чаму? Ды проста на першы план выходзяць новыя мастацкія ўражанні: з надыходам кастрычніка арт-жыццё ў сталіцы робіцца ўсё больш насычанае ды разнастайнае.

С. БЕРАСЦЕНЬ



*НА ЗДЫМКУ: маэстра А. АНІСІМАЎ.*

МУЗЕІ

**Як вядома, славуты беларускі мастак Марк Шагал ніколі не прыязджаў у родны Віцебск пасля эміграцыі. Але сёння разам з душою Шагала ў Віцебск вяртаюцца многія палотны мастака, створаныя ім у далечыні ад горада дзяцінства. Дзе ў адзін цудоўны дзень М. Шагал прызнаўся: "Маці... я хачу быць мастаком. Ні прыказчыкам, ні бухгалтэрам... Усё, хопіць! Недарэмна я ўвесь час адчуваў: павінна здарыцца нешта асаблівае. Памяркуй сама, ці я такі, як другія? На што я здатны? Я хачу быць мастаком". І калі б сёння мастак зноў убачыў свой Віцебск, ён падумаў бы так жа, як шмат гадоў таму, калі ўпершыню заўважыў белы на сінім фоне надпіс "Школа жывапісу Пэна": "Ого! Які культурны наш горад Віцебск!" Бо менавіта такія словы ўзнікаюць у думках падчас наведвання "домікаў" Шагала: Арт-цэнтра М. Шагала (адкрыты ў 1992 г.) і Дома-музея Шагала на вуліцы Пакроўскай (адкрыты ў 1997 г.), створаных намаганнямі апантаных людзей...**

# ПРЫТУЛКІ ШАГАЛА



Па словах дырэктара Музея М. Шагала, які сёння месціцца ў двух будынках, Л. Хмяльніцкай, музей быў створаны літаральна на пустым месцы, бо М. Шагал лічыўся французскім мастаком, а ва ўсёй Беларусі не захавалася ніводнай ягонай работы. (Дарэчы, зусім нядаўна мая сяброўка, знаходзячыся на стажыроўцы ў Амерыцы, трапіла ў сям'ю беларускіх эмігрантаў, якія ў свой час дамагліся, каб у Чыкагскай галерэі мастацтваў, дзе ёсць карціны Шагала, было зазначана, што ён — беларускі мастак. Амерыканскія "беларусы" нават звярталіся з гэтай прапановай да прэзідэнта Рэйгана, і ім не было адмоўлена ў сустрэчы з ім.) Таму збіралі калекцыю музея, так бы мовіць, усім светам. І сёння на паросе ўтульнага Арт-цэнтра, у якім пастаянна ладзяцца выставы графічных работ М. Шагала (у калекцыі музея захоўваюцца серыя ілюстрацый да паэмы М. Гогаля "Мёртвыя душы" (1923—25 гг.), серыя каляровых літаграфій на тэму "Біблія", створаных у 1956 і 1960 г., цыкл каляровых літаграфій "12 каленаў Ізраіля" (1960 г.) і другія работы Шагала), наведвальнікаў сустракае, як сапраўдная "гаспадыня", лагодная кошка Муся...

Ужо зрабілася традыцыйным правядзенне ў Арт-цэнтры Міжнародных шагалаўскіх дзён. Летась прыхільнікі мастацтва Шагала адзначалі 115-ыя ўгодкі з дня нараджэння вядомага мастака. І адной з цэнтральных падзей XII Міжнародных шагалаўскіх дзён у Віцебску сталася адкрыццё пры Музеі Шагала спецыялізаванай бібліятэкі, прысвечанай творчасці мастака. Як паведамляецца ў "Бюлетэні Музея Марка Шагала", які выпускаецца яго супрацоўнікамі штогод, на працягу дзесяці гадоў існавання музея ягоныя фонды папаўняліся кнігамі пра М. Шагала, пра мастакоў і мастацтва XX стагоддзя. "Галоўным чынам, гэта былі дары тых, хто захоплены мастацтвам вялікага Майстра. Але, напэўна, нават пасля яшчэ дзесяці гадоў музей наўрад ці б змог ухваліцца такім значным кніжным зборам, які мае цяпер. І адбылося гэта дзякуючы бескарыслівасці дару доктара медыцыны Генрыха Мандзеля, жыхара невялікага нямецкага гарадка Ірэль... Захоплены мастацтвам Марка Шагала, доктар Мандзель на працягу 40 гадоў збіраў выдадзеныя пра мастака, яго графічныя работы. Але ў жыцці кожнага калекцыянера прыходзіць час, калі трэба падумаць аб далейшым лёсе свайго сабрання. І доктар Мандзель вырашыў падараваць свой скарб Музею Марка Шагала ў Віцебску". 17 снежня 2002 г. доктару Мандзелю саветам творчай інтэлігенцыі г. Віцебска была прысуджана гарадская прэмія "Сузор'е муз" у намінацыі "Мецэнат года", бо нямецкі калекцыянер падараваў музею звыш 1300 кніг і 400 часопісаў, 110 арыгінальных графічных работ Марка Шагала, 69 арыгінальных графічных работ Х. Міро, П. Клее, Ф. Лежэ і іншых еўрапейскіх мастакоў (дарэчы, сёння ў Арт-цэнтры Шагала праходзіць выстава "Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарда"). Трэба адзначыць, што за транспарціроўку кніг з Германіі аплаціла ўнучка М. Шагала Мерэт Мейер-Грабер, якая таксама прафінансавала рамонт памяшкання бібліятэкі, стварэнне мэблі. ("Я ўяўляю сабе ганарлівую ўсмешку Шагала. Дзве тысячы кніг... Гэта яднанне дзвюх тысяч сведчанняў аб каханні", — казала М. Мейер-Грабер на сваточным адкрыцці бібліятэкі.)

Сёння, як зазначае дырэктар музея Шагала Л. Хмяльніцкая, бібліятэка адкрыта для ўсіх, хто цікавіцца творчасцю Шагала: мастацтвазнаўцаў, выкладчыкаў, аспірантаў, студэнтаў... "І гэта, мы думаем, паспрыяе стварэнню на Беларусі ўласнай школы шагалазнаўства", — прызнаецца Л. Хмяльніцкая. Тым больш, што ў біяграфіі Шагала віцебскага перыяду яшчэ шмат чаго не высветлена і патрабуе даследавання.

Ужо шэсць гадоў працуе ў Віцебску і Дом-музей Марка Шагала на вуліцы Пакроўскай, у якім да рэвалюцыі жыла шматдзетная сям'я Шагалаў. (Дом пабудаваў сам бацька мастака.) І, напэўна, першае, што ўражвае пры наведванні гэтага дома, яго невялікія памеры. Як тут змяшчалася столькі людзей! Сёння ж у ім прадстаўлены каштоўныя антыкварныя рэчы, усемагчымыя прадметы побыту XIX—XX стагоддзяў, копіі архіўных дакументаў і работ мастака, якія расказваюць аб гадах жыцця М. Шагала і сям'і яго бацькоў у Віцебску, старыя фотаздымкі. На словах Л. Хмяльніцкай, выстава ў доме на Пакроўскай вуліцы ўвесь час паляпшаецца, удасканальваецца за кошт з'яўлення новай цікавай інфармацыі. Напрыклад, у 2002 г. Музею Марка Шагала было падаравана "Личное дело № 240 Шагал Маруси Захаровны", дзякуючы якому ўдалося даведацца пра некаторыя дадатковыя факты з біяграфіі малодшай сястры мастака, якая ў 1920—21 гг. была арыштавана на 30 сутак за тое, што расказала родным жонкі М. Шагала пра існаванне ваеннай цэнзуры. (А ўвогуле, па звестках "Бюлетэня Музея Марка Шагала" за 2003 г., у музейных фондах, якія складаюцца са звыш трох з паловай тысяч адзінак захавання, больш за дзвесце — гэта прадметы побыту, кожны з якіх мае сваю гісторыю.)

Сёння, на жаль, дзяржаўныя музеі фінансуюцца даволі сціпла. Л. Хмяльніцкая шчыра прызнаецца, што тых грошай, якія выдаткоўваюцца з бюджэту горада ім бы не хапіла. Але "домікі" Шагала актыўна падтрымліваюцца амбасадамі ЗША, Францыі, беларускім прадстаўніцтвам нямецкай кампаніі "Schwarzkopf&Henkel" і шматлікімі мецэнатамі. Напрыклад, выданне першага ў гісторыі музея каталога "Марк Шагал і Біблія" (2002 г.), які склалі 72 работы на тэму Бібліі, што захоўваюцца ў фондах Музея Марка Шагала, здзейснена пры фінансавай падтрымцы Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

***НА ЗДЫМКАХ: помнік М. ШАГАЛА; дом-музей М. ШАГАЛА.***

***ФОТА Г. ЖЫНКОВА***














У мінскім Доме дружбы 30 верасня прайшла ўрачыстая прэзентацыя часопіса "Всемирная литература" — спецыяльнага нумара, прымеркаванага да 54-й гадавіны ўтварэння КНР.Гэтая падзея працягвае традыцыю даўняга супрацоўніцтва нашых літаратур, умацоўвае ўзаемаразуменне паміж народамі. На вечарыне ў Доме дружбы выступілі: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у РБ Юй Чжэньці, намеснік міністра замежных спраў РБ А. Герасіменка, намеснік

# БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКІ «МОСТ»

дырэктара РВУ "Літаратура і мастацтва" П. Вераб'ёў. Сучасная Кітайская Народнай Рэспубліка — магутная дзяржава, у якой плённа развіваюцца эканоміка і культура, адбываецца рэфармаванне народнай гаспадаркі. Пастулова расце адкрытасць гэтай дзяржавы, пашыраюцца сувязі яе з іншымі краінамі. З поспехам праходзяць у Беларусі разнастайныя кітайскія мастацкія і фотавыстаўкі, музычныя фестывалі, выдаюцца кнігі. Цікавасць беларусаў да вялікага Кітая — краіны з 5-тысячагадовай гісторыяй яе старажытнай цывілізацыі — павялічваецца з кожным годам... Завяршыў прэзентацыю канцэрт, складзены з твораў народнай і сучаснай кітайскай музыкі. Неўзабаве распачнецца цыкл вечарын, прысвечаных беларуска-кітайскім адносінам (яны будуць адбывацца ў Доме дружбы): 13 кастрычніка — "Тэатральныя сустрэчы", 16-га — "круглы стол" пад назвай "Пяць элементаў кітайскай філасофіі", 21-га — літаратурна-музычная вечарына "Залатыя хрызантэмы" і, нарэшце, 25 кастрычніка пройдзе ўрачыстае закрыццё Дзён Кітая ў Беларусі.

Калі гаварыць пра змест спецыяльнага нумара часопіса "Всемирная литература", выпушчанага сёлета да святочнай падзеі, то ў ім апублікаваны творы кітайскіх пісьменнікаў сярэдзіны 1970 — сярэдзіны 1990-х гг. (акрамя Хуана Цзычэна, які жыў у XVI—XVII стст.). У асноўным гэта вядомыя сучасныя кітайскія пісьменнікі, якія працягваюць сваю творчую дзейнасць у наш час: Лян Сяашэн, Пэн Цзяньмін, Дзін Лін, Ай Цін Бін Сінь, Лу Сіньхуа, Чэнь Цзянь Гун, Лю Джэн Юін. Друкуюцца таксама літаратуразнаўчыя і культуралагічныя артыкулы беларускіх пісьменнікаў Т. Шамякінай, І. Шаўлякова. Нумар дапамагло падрыхтаваць і забяспечыла матэрыяльную падтрымку пасольства КНР у Беларусі.

"Хай расцвітае сотня кветак, хай сапернічаюць сто школ". Гэты вядомы афарызм можна паставіць у якасці эпіграфа да чарговага нумара часопіса "Всемирная литература", што перадае непаўторную атмасферу Кітая.

С. ЯВАР









# 13-Я ПАЛАСА

Мікола ШАБОВІЧ

## ВЕРСІІ АКАЗАЛІСЯ ПАМЫЛКОВЫМІ

*Заснуў дом насупраць даўно.*
*Чаму ж сярод ночы глыбокай*
*На пятым паверсе акно*
*Гарыць, як нядрэмнае вока.*
*І мушу цяпер я гадаць:*

*Няўжо засядзеліся госці,*
*А мо прыблукала бяда,*
*Хвароба зваліла кагосьці?*
*А можа, сям'я прыбыла...*

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**



Заснулі ўсе людзі даўно.
Чаму ж сярод ночы глыбокай
На пятым паверсе акно
Гарыць, як нядрэмнае вока?

І я пачынаю гадаць:
Мо нехта прыйшоў да кагосьці,
А мо, не дай божа,
бяда...
Так хочацца верыць, што госці.

А можа, паэт, як і я,
Ў бястэм'і ўтарочыўся ў вокны
І думае:
"Можа, сям'я",
Маё разглядаючы "вока"?..

Бінокль ваенны дастаў,
Гляджу — і вачам я не веру.
Ён, гад, у мяне ўсё спісаў,
Цікуе з біноклем,
халера.

Рыфмуе "бяда" і "гадаць",
І "госці" рыфмуе з "кагосьці".
Эй, хопіць, сусед,
падглядаць,
А то атрымаеш у косці!..

Тушу я святло. Усё адно
Скрадзе той хітруга апухлы...
І ў доме насупраць акно
Таксама праз хвілю патухла.

Юрась СВІРКА



## ПАСТСКРЫПТУМНЫ КЛОПАТ

***У старасці тры клопаты: паесці, паспаць і адпачыць пасля першых двух.***

**З кнігі афарызмаў Г. МАРЧУКА**

*У старасці гады жыцця гартаюць,*
*Тры клопаты нязменна вызначаюць:*
*Найпершы з іх —*
*наесціся ў ахвотку.*
*Другі — паспаць і доўга, і салодка.*
*А трэці клопат (лёгкі ён, як пух) —*
*Каб палайдачыць пасля першых двух.*
**P.S.**

*Чацвёрты клопат будзе тут дарэчы.*
*Бяссонніцай выводзіўся старэчай.*
*Ён ісціне, здаецца,*
*не пярэчыць,*
*Бо не драмала кволая рука:*
*"Сон занатурыцца —*
*гартайце Марчука".*

## РАСКАЯННЕ

*Парадыст не зразумеў паэта,*
*Калі той стварыў нешта пра "гэта".*
*І паэт не зразумеў парадыста*
*І адказаў яму не ганарыста:*
*"Я вашым жанрам не валодаю*
*І думаў, што ствараю мадрыгал.*
*(Быў пад рукой не той матэрыял),*
*А выйшла,*
*каюся, пародыя".*

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

## ЭПІГРАМЫ

### ДРЭННЫ ПРЫКЛАД

Ахоўнікам маралі не да твару,
Падлеткаў за свавольства
папракаць,
Калі бабулі дзеля ганарару,
На сцэне могуць голыя
скакаць.

### ПРЭПАРАТАР

Ён "вольнасці" паэтам не даруе,
І вершы па-жывому "прэпаруе",
Але чужыя вершы, не свае, —
Свае прэпараваць ён не дае.

### ЭПІТАФІЯ САТЫРЫКУ

Нарэшце супакоіўся навек,
Для ліхадзееў шкодны чалавек,
Шмат іх цяпер
з палёгкай уздыхне —
Галоўны выкрывальнік у труне.

**ВІНШУЕМ!**

**Марцін КОЎЗКІ** святкуе сваё васьмідзесяцігоддзе. "13-паласа" зычыць юбіляру доўгіх гадоў жыцця і творчага настрою.



Барыс КАВАЛЕРЧЫК

## СЛОВЫ НА ПАПЕРЫ

**Слова — не верабей, і тым болей мастацкае. Яго да сябе зярняткам не прывабіш.**

**След, які пісьменнік пакідае ў літаратуры, не залежыць ад размеру яго абутку.**

**Афарызм — гэта як прыгожая жанчына без адзення: усе прывабнасці адразу бачны.**

Міхась ПАЗНЯКОЎ

## ІРАНІЗМЫ



### ПРАВОДЗІНЫ

Начальніка на пенсію праводзілі,
Тры дні ад шчасця карагодзілі.

### КАБІНЕТ І ГАСПАДАР

Хоць кабінет аздобіў пад арэх,
Ды гаспадар — і смех і грэх.

### ВЯЛІКІ

Хваліўся салаўю індык:
— І ў спевах, братка, я вялік.

### ГАНАРЫСТАСЦЬ

***На вуліцы бруд ганарыцца:***
***— Ды кожны закрануць***
***мяне баіцца.***

Малюнкі П. КАРПОВІЧА



Малюнак А. ГУРСКАГА

## ЛІТАРАТУРНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

Музей гісторыі беларускай літаратуры і яго дырэктар Л. Макарэвіч гэтымі днямі гасцінна адчынілі дзверы арганізатарам, удзельнікам і гледачам незвычайнай творчай акцыі — літаратурнага фестывалю "Тры дні". "Другі фронт мастацтваў" наладзіў у сценах музея прэзентацыю кніг з серый "Schmerzwerk", "Бібліятэка Бум-Бам-Літа", выставу "Блазны" і паказ перформансаў. Свае творы на фестывалі прадстаўлялі З. Вішнёў, А. Клінаў, Г. Ціханава і іншыя. Імпрэзы суправаджаліся выступленнямі аркестра Васіля Коназа, гурта "Рацыянальная дыета" і інш. Была наладжана выстава кніг эксперыментальнага і радыкальнага зместу, выпушчаных мінскім выдавецтвам "Логвінаў": А. Хадановіч "Старыя вершы" і "Лісты з-пад коўдры", З. Вішнёў "Тамбурны маскіт"... Навукововую і маральную падтрымку фестывалю аказалі Г. Кісліцына, В. Акудовіч, Я. Шунейка, А. Глобус. Відаць, гэтая "нефарматная" літаратура, як ахрысціў яе Н. Гальпяровіч, і такое ж "нефарматнае" мастацтва з цягам часу здолеюць атрымаць у нашай краіне і большую павагу, і большае прызнанне. Класікам быць небяспечна, бо цябе могуць скінуць з п'едэстала. А таму пачынальнікі "новага мастацтва" лічаць, што яны рэабілітуюць беларускую літаратуру перад сучаснасцю. Як жа на самай справе — пакажа час.

С. Я.

## ВАЛАДАР ПЕСНІ

Той восеньскі дзень быў асаблівы: надзвычай цёплы, вясёлы, ласкавы і вельмі шчодры на прыгажосць, якая панавала паўсюль. У тым ліку і ў студэнцкай аўдыторыі. Прыгажосць усмешак і вачэй, прыгажосць думак і... музыкі. Музыкі — асабліва.

У аўдыторыі натхнёна гучаў моцны голас, скалынаючы сэрцы і душы. Там быў ён — валадар музыкі, верша, таленту... Гэта быў Алесь Камоцкі. Спачатку бард праспяваў некалькі песень з альбома "Зорка спагады" на словы Рыгора Барадуліна. Песні пра каханне, пра адданасць, пра веру, пра мары. Настолькі пранікнёна, натхнёна спяваў Алесь Камоцкі, што міжволі перад вачамі паўставалі героі яго песень: прыгажосці нябеснай князёўна, дзяўчына, што мыла ў возеры валасы, загадкавая жанчына, каралеўна. Потым гучалі песні аб восені, якая неверагодным чынам спалучала ў сабе духоўную лёгкасць, але ў той жа час і складаны філасофскі сэнс.

Алесь Камоцкі абудзіў веру ў лепшае, ды й гонару дабавіў у душы нашыя за прыгажосць мовы, за тое, што сапраўды багатая Беларусь на таленты. Што ж "зямля тут такая", як сказаў аднойчы У. Караткевіч.

Людміла РОГАЧ,
студэнтка 108-й групы гістарычнага факультэта БДПУ імя М. Танка





*Пасіянарыя Стайчэску даўно і плённа працуе ў румынскай літаратуры як паэтэса, дзіўчая пісьменніца і ўдумлівы перакладчык. Яе творам уласціва філасофскае асэнсаванне жыцця, дасканалае веданне псіхалогіі чалавека, уменне падаваць матэрыял жыва і цікава, заінтрыгаваць чытача. Часта простыя здавалася б сюжэты нясуць значную сэнсавую нагрузку, змушаюць задумацца над сваімі ўчынкамі, абуджаюць цікавасць да навакольнага свету. Творчасць Пасіянарыі адзначана не толькі чытацкай прыхільнасцю, а і афіцыйным прызнаннем.*

*Акрамя ўсяго Пасіянарыя Стайчэску заявіла пра сябе як перакладчык твораў беларускіх аўтараў, найперш нашых паэтаў. Падборкі ў яе перакладзе друкаваліся ў многіх перыядычных выданнях Румыніі. Варта адзначыць, што годна спрыяе ёй у гэтай справе муж Андрэй Іваноў — выкладчык кафедры рускай філалогіі Бухарэсцкага універсітэта. Таму пераклады беларускіх аўтараў Пасіянарыя робіць з мовы арыгінала. Захоплена яна і ідэяй выдання на румынскай мове Анталогіі беларускай паэзіі.*

# НАЦЮРМОРТ З ШАЎКОЎНІЦАЙ

Дзіўная выснова змушае мяне паверыць, што паміж фруктамі і ўзростам існуе таемная сувязь. Ва ўсякім выпадку, гэта датычыць мяне. Нясмачная чарэшня звязана з дзяцінствам, а паважная жоўтая айва — са сталасцю. Зялепухі-яблыкі, алыча і абрыкосы вабныя толькі тады, калі іх крадзеш і ясі, схаваўшыся, з прымружанымі вачамі і аскомай на зубах. Вядома, што ахвота на такія прысмакі бывае толькі ў падлеткаў, калі ўсё забароненае, недаспелае вабіць і штурхае на непаслухмянства.

Пра шаўкоўніцу ж, чорную і белую, магу сказаць, што расла яна ў далёкі, засмучаны гадамі час, пазначаны непаўторнымі пахамі і звычкамі. Успамін пра шаўкоўніцу на імгненне адраджае вобраз тадышняга дзіцяці, якое нецярпліва чакала магчымасці ўцячы з залы Міцыкі, дзе па суботах і чацвяргах збіраюцца збяднелыя памешчыцы, жонкі генералаў і адвакатаў — на варэнне і каву, на партыю ў карты. Мама прыходзіла сюды пазычаць грошы. Міцыка давала іх пад працэнты, і пасля такой спагадлівасці мама не магла сысці проста так. Спачатку мне не падабалася сядзець у высокай зале з наваскаванай падлогай і параскіданымі скрозь падушкамі і дыхаць цяжкім паветрам з пахам катоў. У Міцыкі было шмат катоў. Мне ж хацелася ў дворык за домам, на страху хлеўчука, з якой можна было зрываць салодкую-салодкую шаўкоўніцу і дыхаць свежым паветрам.

Вокны залы выходзілі на Вялікую вуліцу і былі зацемнены карункавымі шторамі, якія пацямнелі ад часу і дыму. Шторы вязала не Міцыка, а яе мама і цётка — высахлыя бабулькі, якія сапраўднымі муміямі valяліся на непрыбраным ложку. У горадзе было шмат магазінаў, у вітрынах якіх выстаўлены зморшчаны і хрумсткі інжыр, але я не магла наблізіцца да іх. І ўсё з-за таго, што Міцыка называла бабулек нягоднымі інжыркамі і часта крычала на іх, каб яны не варушыліся. Пасля гэтага есці інжыр мне было проста агідна. Бабулькам — Паўліне і Клеапатры даўно мінула сто гадоў. Былі яны амаль сляпыя і бездапаможныя. Калі я ўбачыла іх упершыню, то ад страху расплакалася і спытала ў мамы: "А хто гэтыя старыя?"

Міцыка таксама не была маладой. Але ў свае амаль семдзесят трымалася яшчэ бадзёра, любіла папляткарыць, а грашовыя пазыкі служылі крыніцай прыбытку. З залы яна бачыла ўвесь цэнтр правінцыйнага гарадка, пра ўсіх, хто праходзіў там, магла расказаць якую-небудзь гісторыю.

Дом Міцыкі быў двухпавярховы. На другім паверсе жыла яшчэ адна збяднелая памешчыца — пані Пантазоглу, з якой Міцыка вечна сварылася з-за несвоечасовай платы за кватэру. Яна не дазваляла ёй ласавацца пладамі старых шаўкоўніц, якія акружалі двор, што выходзіў на брудную, нефарбаваную вулічку. Са страхі хлеўчука, з якога я ахвотна смакавала шаўкоўніцу, я стукала ў акно пані Пантазоглу, і тая падавала мне талерку з намаляваным на ёй драганам. Да самых берагоў я напаўняла яе пладамі шаўкоўніцы і была на дзесятым небе, калі чула за гэта пахвальныя словы: "Ты добрая дзяўчынка!"

дома, маладую і злосную Міцыку з тонкімі і моцна нафарбаванымі губамі.

На ўваходных дзвярах у залу вісеў бронзавы званочак, які званіў больш прыгожа, чым школьны. На ягоны гук з цёмнага калідора з прагнілай падлогай адразу ж з'яўлялася сухая фігура Міцыкі, якая пракураным голасам крычала: "Хто-о-о там?"

Вітальня напаўнялася шматгалосым мяўканнем катоў, якія звычайна бесклапотна мурлыкалі, калі сваімі целамі саграваді зморшчаных стагадовых Паўліну і Клеапатру.

Мама, якая трымала мяне за руку, бо не было з кім пакінуць дома, супакойвальна адказвала гаспадыні:

— Добрыя людзі, Міцыка. Гэта мы. Як там нашыя бабулькі? — ветліва пыталася яна, бо прыйшла пазычыць грошай.

— Ах, бедныя мы, — скардзілася Міцыка ў множным ліку, падкрэсліваючы, што і без таго стамілася клапаціцца пра сябе, а тут яшчэ дзве бабулькі. — Ну ідзіце, адведайце іх, яны будуць рады, — паблажліва вырашала яна. — Мамуля, цётачка Клеа, паглядзіце, хто да нас прыйшоў, — ласкава звярталася яна да бабулек, нібыта да дзяўчатак.

— Хто-о-о? — ледзь чутна падавала голас з-пад прапахлых кацінай мачой коўдраў Паліна.

— Ана з дачушкай, — пераможна адказвала Міцыка, нібыта мы здзейснілі подзвіг, калі з'явіліся ў гэты страшны пакой.

Тады Паўліна варушылася, як вусень у прасцірадлах, штурхала заснулую нібыта ў летаргічным сне Клеапатру і з радасцю вялікага дзіцяці альбо звар'яцелага чалавека прамаўляла:

— Уставай! Дзяўчаткі прыйшлі!

— Ага, — мармытала Клеапатра, але не ўставала. — Як звацъ іх? — дадавала яна ліпучым голасам, але не

Я здзіўлялася, як яна, сляпая пятнаццаць гадоў, магла казаць такія кампліменты. Але мама патлумачыла мне, калі выйшлі з пакоя:

— Так ужо і "прыгожая"! А што ёй яшчэ казаць? Яна ледзьве пазнала мяне вобмацкам. Але Паліна назаўсёды засталася прыстойнай.

— А што такое прыстойнасць? — прыставала я да мамы пакуль мы ішлі ў залу, дзе Міцыка разлівала каву ў філіжанкі, якія стаялі на маленькім століку на колцах. Маленькія філіжанкі былі нябачанага мною яркага колеру.

Мама не паспявала адказаць. Перада мной ва ўсім сваім шыку паўставала зала. Дома ў нас вісела маленькая лямпачка без абажура, а тут панавала вялікая жырандоля з празрыстымі вісюлькамі з крышталю, праўда, са шматлікімі меткамі мух. Аднак вісюлькі мелядычна пазвонвалі і вабна бліскалі, калі госці рухаліся па зале. Ды і госці здаваліся нейкімі невыразнымі: "пані палкоўнік", "пані адвакат", "пані генерал"... Мама ж была звычайнай настаўніцай, і мо таму, што была значна маладзейшай за іх, да яе звярталіся проста: Ана. Я адчувала сябе непамыснай: чаму ніхто не звяртаўся да яе "пані настаўніца"? Але я не магла выказаць сваё незадавальненне словамі.

Каля сцен залы стаялі высокія крэслы, якія я бачыла толькі ў царкве, а на падлозе, на старым выцвілым персідскім кіліме былі параскіданы маленькія аксамітныя падушачкі, вышытыя бісерам Паўлінай і Клеапатрай. У маладыя гады абедзве яны былі добрымі майстрыхамі і выкладалі працу ў гарадской школе мастацтва і рамяства. Цяпер жа іхні пакой быў замаскаваны трохчасткавай шырмай з намаляваным на ёй вялікім паўлінам. Хвост паўліна нечакана абрываўся на першай частцы



Мастак В. АЛЬШЭЎСКІ

Пані Пантазоглу крыўдліва скардзілася на Міцыку, хоць я не ўсё магла зразумець з той скаргі. Неяк яна расказала пра боль у той зале, дзе госці збіраліся зараз піць каву, на які Пані Пантазоглу з'явілася ў такой прыгожай сукенцы, што палкоўнік, які быў закаханы ў Міцыку, запрасіў на танец не яе, а Пантазоглу. За гэта гаспадыня прагнала яе з залы. Расказ здаваўся мне казкай. Я нібыта бачыла карэты ля

рабіла і спробы выблытацца са сваіх падраных коўдраў.

Каты пачыналі мяўкаць, незадаволеныя нашым з'яўленнем, але са спадзевам атрымаць што-небудзь са спажывы. І хоць я ўвогуле любіла катоў, гэтыя выклікалі ў мяне агіду, яны здаваліся старымі, аблезлымі і жаданне пагладзіць іх замірала на кончыках маіх пальцаў. Яны ляніва церліся ля нашых ног, пакуль мама, якая не любіла катоў, не праганяла іх:

— Апсік! Прэч!

У гэты ж момант, нібыта па сігнале, як быццам шлях вызваляўся ад нябачных перашкод, маленькая, згорбленая Паўліна ў карункавым чапцы, пачарнелым, як і шторы, звязаныя ёю ў маладосці, шлэпала да нас. У яе была такая зморшчаная скура, што мяне аж страх браў: дакранецца яна да мяне, і я таксама зморшчуся.

Яна намацвала дарогу выцягнутымі рукамі, дакпыпвала ў сваіх падраных тапках з брудным пампонам да мамы і гладзіла яе па шчаках, нібыта не пазнавала.

— А-а, гэта ты, Ана! — радавалася яна, што можа дакрануцца да сапраўднай жанчыны, а не да шкілета. — Якая ты стала прыгожая!

Пасіянарыя СТАЙЧЭСКУ

і ўзнікаў зялёна-залацістымі пёрамі на двух іншых.

Госці, Міцыка і мама пачыналі гаворку, а я хавалася за шырму і назірала за імі праз шчыліны паміж яе часткамі. Нібыта праз бінокль сачыла за другім берагам. Пасля ж, калі ніхто мяне не заўважаў, я то выходзіла з-за шырмы, то хавалася за яе зноў – як на сцэну з занавесам, і дэкламавала ўсё, што прыходзіла ў галаву. Затым я мастаколілася на падушках, каб сарваць з іх бісер. Лічылася за вялікі шык насіць на пальцы бісерны пярсцёнак на нітцы, які ззяў усімі колерамі вясёлкі.

— Ці можна мне збудаваць дом з падушачак? – пакорліва пыталася я ў гаспадыні.

Міцыка радавалася, што я не буду блытацца пад нагамі яе генеральшаў, і дазваляла.

Мама ж, ведаючы, якое я чарцяня, строга папярэджвала:

— Глядзі, нічога не сапсуй!

— Не-а, вядома, не сапсую, — адказвала я ціха і зносіла падушачкі за шырму. Там складвала іх адну на другую – як замак, а пасля цікавала за мамай: калі яна вып'е каву. Тады брала яе філіжанку са свежай гушчай, непрыкметна выпівала яе і маліла намаляваную на філіжанцы японку:

— Японская прынцэса, зрабі так, каб мама і Міцыка не бачылі мяне. Я вазьму ўсяго некалькі бісерынак для пярсцёнка.

Прынцэса пазірала на мяне з застылай усмешкай, нібыта згаджалася, і я зубамі і пазногцямі адрывала бісерынкі, якія блішчалі яшчэ ярчэй – адчувалі сябе вызваленымі з цесных абдымкаў састарэлых нітак.

Дома я хавала іх у пенал, дзе было нямала рознакаляровага бісеру, а пасля выменьвала яго на гарачыя абаранкі ў Валі, дачкі пекара. За адну халодную і бліскучую бісерынку, якую я называла "міцыка", я атрымлівала свежы і трошкі падпражаны абаранак.

Гандаль бісерам раскашаваў да той пары, пакуль нехта не нагаварыў настаўніцы, што я за тры "міцыкі" папрасіла два фотаздымкі і адзін абаранак.

— Адкуль у цябе гэты бісер? І чаму ты называеш яго "міцыкі"? – строга спытала пані настаўніца, двума пальцамі ўзяла мяне за падбародак і прымусіла пазіраць на яе. – І што гэта за гісторыя з "японскай чараўніцай", якая дае табе бісер?

Гэта Валі расказала ёй усё, і адразу ж знішчыла вабнасць і загадкавасць.

— З падушкі, — мармытала я спалохана і ажно пачырванела ад страху, што ў настаўніцкай яна раскажа пра ўсё маме.

— Я выпушчу ўвесь пух з гэтай падушкі, — сурова прамовіла настаўніца і балюча накруціла на палец маю кудзерку ля левага вуха.

А пасля Міцыка захварэла, і мама насіла ўсім тром бабулькам ежу. Зала апусцела, і жырандоля не звінела болей сваімі крышталёвымі вісюлькамі. Было лета, ішоў дождж, і шаўкоўніца ў канцы двара рассыпала свае чорныя і ліловыя ягады, пакрытыя шматлікімі бісерынкамі.

— Памру я і не пакаштую наступным годам шаўкоўніцу, — скардзілася Міцыка. – А хто паклапаціцца пра маіх "інжырчыкаў"?

Тады я выходзіла на двор, збірала ў кубачкі плады шаўкоўніцы і пад мяўканне катоў клала ў рот бабулькам па адной ягадцы. Іхнія пасінелыя ад ягад губы нібыта ажывалі.

— Уставай, дзяўчаткі прыйшлі, — зусім слабым голасам клікала Паўліна.

Але Клеапатра не адказвала. Гульня з бісерам скончылася.

З той пары я не ем больш ягад шаўкоўніцы. Яны выклікаюць у мяне нейкі жаль, змешаны са страхам. А калі я ўсё-ткі апынаюся ля дрэва, то пазіраю на ягоную крону са спелымі чорнымі і яшчэ белымі пладамі-ўпрыгожваннямі і адчуваю раптам мяккую поўсць катоў, якія дарэмна лашчацца ля ног. Ягады беднасці, дзяцінства, змешанага са старасцю. І якім бы чыстым ні было вакол паветра, нос мой адчувае неадступны пах той далёкай гніласці. Маленькія бісерынкі ззяюць перад маімі вачамі, а голас вялікага дзіцяці альбо звар'явалага чалавека шэпча мне:

— Якая ты стала прыгожая!

**З румынскай пераклаў Анатоль БУТЭВІЧ**

**ГАДАВІНЫ**

***Сёлета ў нас адзін з юбілеяў, які мог бы адзначацца шырока і пашанотна. 415 гадоў таму (1588) пабачыў свет Трэці статут Вялікага Княства Літоўскага (першыя два — у 1529 і 1566 гг.), які многія вучоныя лічаць адной з першых Канстытуцый у тагачаснай Еўропе, што сведчыла пра высокі ўзровень дзяржаўнасці, навукі, права, літаратурнай старабеларускай мовы, культуры на нашых землях. Выданне Трэцяга статута звязваюць непасрэдна з імем Льва Сапегі: ён узначальваў сеймавую камісію па яго стварэнні, напісаў да яго прадмову і фінансаваў ягонае выданне ў віленскай друкарні Мамонічаў. У Льва Сапегі сёлета таксама гадавіна, праўда, жалобная: 370 гадоў, як яго не стала.***

# ЛЕЎ САПЕГА І СТАТУТ 1588



Род Сапегаў бярэ пачатак з XV ст., і яны ў дзейнасці ВКЛ адыгрывалі вялікую ролю. Леў Іванавіч — найбольш вядомы і ўдачлівы з іх. Ён навучаўся пры двары віленскага ваяводы і канцлера вялікага М. Радзівіла Чорнага, у Лейпцыгскім універсітэце, дзе ўдасканаліў веданне замежных моў, прыняў кальвінізм. Пасля вяртання на радзіму пачаў службу пры двары караля і вялікага князя С. Баторыя, у войску якога вызваляў Полацк ад нашэсця Івана Жахлівага, удзельнічаў у ваенных паходах на Вялікія Лукі і Пскоў, за храбрасць і ўмельства адзначаўся і з 1581 года стаў значнай асобай у ВКЛ.

Л. Сапега, маючы вялікія веды, разам з іншымі стварае вышэйшы суд у дзяржаве — Галоўны Трыбунал ВКЛ, чым удасканалілася судовая рэформа з выбарнай сістэмай суддзяў, вядзе дыпламатычныя перамовы з Масквой наконт памежжа, распрацоўвае праект уніі Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Пасля смерці С. Баторыя, у перыяд бескаралеўя 1587 года, Сапега — адзін з уплывовых сенатараў, вылучае свае погляды наконт выбрання караля і яго ўлады, не дазваляе польскім магнатам заняволіць ВКЛ, пайшоў на перамовы з маскоўскімі дыпламатамі — са спробай заключыць з царом мір і прапанаваць яго на каралеўскі трон. Апошняе не выйшла. Хоць новага караля Жыгімонта Вазу не хутка прызналі і вялікім князем ВКЛ.

З 1598 года Л. Сапега — вялікі канцлер Беларуска-Літоўскай дзяржавы, вядзе ўнутраную і знешнюю палітыку ВКЛ. Яшчэ ў 1586 годзе ён перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва, але ў рэлігійных справах быў памяркоўны і пазней, у 1590-х, намагаўся мірна вырашыць спрэчкі на гэтай глебе, а ў 1596 годзе ў Брэсце падтрымаў аб'яднанне каталіцызму і праваслаўя, што стала асновай уніяцтва, што, на яго думку, захоўвала цэласнасць ВКЛ і магло стрымаць царскую агрэсію пад выглядам абароны праваслаўных насельнікаў. Вырашаў і іншыя канфлікты — скажам, паміж Радзівіламі і Хадкевічамі, што ўтрымала ад грамадзянскай вайны ў краіне. Пасля смерці ў 1598 годзе цара Фёдара Іванавіча зноў спрабаваў утварыць унію Рэчы Паспалітай з Масквой (польскі кароль на маскоўскім троне) і — зноў тут няўдача. На пачатку 1600-х гадоў — кіпучая дзейнасць па ўціхамірванні спрэчак, ваенных сутычак у ВКЛ, а таксама канфлікту Радзівілаў з каралём. У 1609 годзе разам з каралём — у паходзе на Смаленск, а калі аблога горада зацягнулася, шукае міру з Масквой (хоць і не зусім ясная яго роля ў засылцы Ілжэдзмітрыяў), вядзе ад Рэчы Паспалітай усходні вектар яе палітыкі, рыхтуе ваенным шляхам на царскі трон каралевіча Уладзіслава. Пасля бітваў, асад адбыліся перамовы, ВКЛ і Польшча атрымалі зямельныя набыткі, ды на царскім троне застаўся Міхаіл Раманаў. Пазней Сапега ўмешваецца і ў іншы накірунак еўрапейскай палітыкі — аказвае супраціўленне туркам у Малдавіі, шведам у Інфлянтыі, заадно мірыць іерархаў уніяцкай царквы і праваслаўя, угаворваючы іх ісці на ўзаемныя саступкі (калі не ўдавалася, то ішоў на жорсткія меры: за забойства уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча, якога Сапега таксама перасцерагаў ад рэпрэсій над праваслаўнымі, ад Віцебска адабралі магдэбургскае права, прывілеі, некаторых гараджан прысудзілі да смяротнага пакарання і г.д.).

Леў Сапега адмаўляўся ад некаторых сваіх высокіх пасад, займаў новыя — да слова, у 68-гадовым узросце стаў галоўнакамандуючым беларуска-літоўскага войска, за што пакрыўдзіўся К. Радзівіл, хоць пазней яны ўсё ж знайшлі адну мову супольна дзейнічаць у Інфлянтах. Не зусім паспяхова. У выніку перамір'я 1629 года многія землі ўздоўж Балтыйскага мора замацоўваліся за шведамі.

Падчас новага бескаралеўя, у 1632 годзе, цар Міхаіл Раманаў рушыў на Смаленск з 40-тысячным войскам. Л. Сапега арганізоўвае сілу для абароны ўсходніх абшараў ВКЛ. 7 ліпеня 1633 года ў Вільні ён памёр.

Леў Сапега — значная постаць свайго часу. Ён быў адукаваны, багаты, уладны, шчодра адорваў за паспяховую службу ВКЛ і караў неруплівых ды вінаватых, упарадкаваў дзяржаўны архіў, сабраў вялікую бібліятэку, вызначыўся як выдатны дзяржаўны дзеяч, які аберагаў інтарэсы, незалежнасць ВКЛ, быў дыпламат і палкаводзец, прыхільнік праваў дзяржавы і дакладнага выканання законаў.

Статут 1588 года, да стварэння якога дачыніўся Леў Сапега, складаўся з 14 раздзелаў і 487 артыкулаў. У 1—4 раздзелах змешчаны нормы дзяржаўнага права і судовага ладу, у 5—10 — шлюбна-сямейнага, зямельнага і цывільнага права, у 11—14-м — крымінальнага права. Юрыдычна замацаваў адносіны, што ўсталяваліся паміж ВКЛ і Польшчай пасля Люблінскай уніі 1569 года, самастойнасць дзяржаўных установ, эканомікі, заканадаўства, арміі, казны ВКЛ (выхадцам з Польшчы не дазвалялася займаць тут высокія пасады, набываць маёмасць), узаконьваў у ВКЛ дзяржаўнасць тагачаснай беларускай мовы. Статут 1588 года абвяшчаў ідэю верацярпімасці, абарону правоў простага чалавека, абмяжоўваў пакаранні непаўналетніх. Многія артыкулы Статута пазней перайшлі ў Саборнае ўлажэнне 1649 года. На беларускіх землях ён дзейнічаў да 1840 года, а пасля быў царскім урадам адменены, як і забаронены ўжыванні тэрмінаў "Беларусь", "беларускі", "Літва". Яны сталі Паўночна-Заходнім краем Расійскай імперыі.

Амаль усе вядомыя, захаваныя экземпляры Статута 1588 года і яго перавыданні знаходзяцца ў бібліятэках, прыватных зборах у Польшчы, на Украіне, у Літве і ў Расіі. У 1989 годзе, да 400-годавага юбілею Статута 1588 года, ён быў перавыдадзены ў БелСЭ з тэкстамі (у арыгінале, адаптаваны і пераклад на рускую мову), высокапрафесійнымі прадмовай, даведачным матэрыялам і каментарыем, з ілюстрацыямі. Тыраж выдання быў 10 тысяч экземпляраў.

...Як бачым, усе слаі нашых далёкіх продкаў, шануючы сваю гісторыю, мову і культуру, свой гонар, зрабілі ўсё, каб стварыць дзяржаву, яе Канстытуцыю, чым падалі прыклад усёй Еўропе, і яна, тагачасная Еўропа, зацікавілася, пачала вывучаць нас, нашы законы, у тым ліку і тагачасную беларускую мову...

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

*(У матэрыяле скарыстаны асобныя звесткі з артыкула А. П. Грыцкевіча "Леў Сапега" ў кнізе "Славутыя імёны Бацькаўшчыны". Мн., Беларускі фонд культуры, 2000.)*

**ПАМЯЦЬ**

# ПАСМЯРОЦЦЕ ВЕНАНЦЫЯ БУТРЫМА

3 чэрвеня 1991 года пасля 27 гадоў службы і блуканняў па Беларусі, Украіне, Эстоніі, Забайкаллі, Далёкім Усходзе, Прыуралі-Прыволжы стаў стала жыць у Баранавічах, а ў восень 1992 года пазнаёміўся на літаратурным вечары ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Валянціна Таўлая з надта сціплым і вельмі багата адораным паэтычнымі здабыткамі мастаком Венанцыем Бутрымам, абодва на ім і выступілі, дзе шчодра былі адораны апладысментамі слухачоў і ўдзячнасцю бібліятэчных працаўніц.

З таго дня ў мяне беражна захоўваецца падарунак — газета "Знамя коммунизма" (г. Баранавічы, 13 жніўня, 1988 г.) з паэмай "Ліра і горан" і надпісам "М. М. Маліноўскаму з самымі найлепшымі пажаданнямі. Бутрым. 1992".

Праз 10 гадоў Венанцы на першай сваёй кнізе паэзіі "У барвах зямлі" зрабіў для мяне такі запіс "Шаноўнаму Маліноўскаму, сардэчна, на добрую памяць... Жыве Беларусь! Бутрым. Красавік 2002".

Паэт быў смяротна хворым, адчуваў блізкі канец, але нават у гэтых умовах супрацьстаяўся лёсу, ніводнай хвіліны не траціў дарма, рабіў дабро (паспеў мяне яшчэ адарыць стосам беларускіх краязнаўчых кніг) і пісаць-дарабляць свае вершы і паэмы.

Пішу гэтыя радкі, а сам успамінаю, калі да мяне ўпершыню прыйшла паэзія В. Бутрыма. Успомніў і не памыліўся. У 1989 годзе, калі служыў у Слуцку і там прыдбаў пасля восені штогоднік "Дзень паэзіі-89", а ў ім на старонках 170—171 адзначыў яго верш "Каляровая літаграфія".

16 жніўня 2003 г. пасля цяжкай хваробы Венанцы Бутрым адышоў у лепшы свет. Яго сябры, прыхільнікі, паслядоўнікі давялі да канца яго працу і выдалі яго новы зборнік — пасмяротны.

Біяграфія творцы сціплая і ўмяшчаецца ўсяго ў некалькі радкоў. Нарадзіўся ўвосень (9 верасня) 1936 г. у горадзе, акупаваным палякамі па рыжскай змове-дамове паміж Пілсудскім і Леніным, ля ракі Мышанка, навучаўся спецыяльнасцям у двух вучылішчах, спачатку ў тэхнічным, а потым у Мінскім мастацкім, рабіў электрыкам, мастаком-афарміцелем, працаваў настаўнікам і ў майстэрнях Мастацкага фонду Беларусі. Выступаў у друку каля 30 гадоў з паэзіяй і прозай у Баранавічах, Брэсце, Мінску... Меў публікацыі ў часопісах "Маладосць", "Нёман".

Так, сёння мы маем і пасмяротнае літаратурна-мастацкае выданне: Венанцы Бутрым

Паралелі: Вершы і паэмы — Баранавічы: Грамадская арганізацыя "Творчае згуртаванне "Святліца", 2003. — 99 с., іл.

Мастак Венанцы Бутрым.

У ім 21 верш і 2 паэмы ("Фрагменты жыцця Цёткі, Алаізы Пашкевічанкі" і "Ліра і Горан. Памяці крошынскага каваля Паўла Багрыма").

Рэдактар выдання Леанід Дранько-Майсюк, дызайн-макет Уладзіміра Гундара, карэктура Алены Белай, наклад 250 асобнікаў.

Цытую пасмяротныя "Паралелі" Венанцыя Бутрыма і ўслед за ім паўтараю:

(...)
У скронях:
учарашні,
дзень сённяшні,
заўтрашні.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**

*г. Баранавічы*



## ВІНШУЕМ!

# АДЗІНЫ ФАГОТ



VII Міжнародны конкурс выканаўцаў сучаснай камернай музыкі прайшоў у Кракаве. Спаборніцтва ладзілася на ўсіх інструментах па пяці катэгорыях: салісты, дуэты, трыо, квартэты, квінтэты. Удзельнічалі прадстаўнікі больш як дзесятка краін: Вялікабрытаніі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Італіі, Нідэрландаў, Францыі, Швейцарыі, Іспаніі, Японіі... Адзіны канкурсант прадстаўляў Беларусь. Ён, саліст Ансамбля "Класік-Авангард" фагатыст Аляксей Фралоў, стаў лаўрэатам гэтага прэстыжнага конкурсу.

**ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА**

## ФАКТ

# СПЯВАЛА БЕЛАРУСКАЕ

На 64 мовах, як сцвярджаюць знаўцы, спявала знакамітая ў свой час выканаўца і збіральніца народных песень, педагог, народная артыстка РСФСР Ірма Яўнзем. Нарадзілася яна ў Мінску, у латышскай сям'і, праз усё жыццё пранесла любоў да беларускай песні. У 1923—25 гг. выкладала ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве спевы і нашу народную музыку. А потым, аж да 1963 г., працавала салісткай Маскоўскай філармоніі, маючы ў рэпертуары больш як 5 тысяч узораў песеннай творчасці розных народаў. Яна, дарэчы, першая з прафесійных вакалістаў у СССР пачала выконваць фальклор на нацыянальных мовах.

Нядаўна мемарыяльная дошка з выявай Ірмы Яўнзем, першай заслужанай артысткі БССР, з'явілася ў Мінску на будынку былой Марыінскай гімназіі (па вул. К. Маркса), дзе з 1906 па 1914 гг. вучылася наша знаная зямлячка. У цырымоніі адкрыцця памятнага знаку ўдзельнічалі намеснік міністра культуры Беларусі В. Гедройц, дырэктар Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры Беларусі З. Кучар, старшыня Беларускага саюза кампазітараў І. Лучанок, а таксама ўнучка спявачкі, жыхарка Масквы.

**Н. К.**

***ФОТА А. МАЦЮША***




## АФІША КАСТРЫЧНІКА

### Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ

***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66***

10 — А. Мдзівані "Жарсці" (Рагнеда)"
12 — А. Хачатуран "Спартак"
15 — П. Чайкоўскі "Спячая прыгажуня"
17 — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
19(раніца) — К. Хачатуран "Чыпаліна"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы

***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41***

11 — Д. Вердзі "Аіда" (да 190-годдзя з дня нараджэння італьянскага кампазітара)
16 — У. Солтан "Дзікае паляванне караля Стаха"
18 — М. Мусаргскі "Хаваншчына" (прэм'ера)
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

### Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі

***вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08***

10, 11 — А. Карэлін "І рэха адказала — ты" (прэм'ера)
12 — Я. Таганаў "Адэль"
14 — В. Панін "Песні ваўка"
15 — Канцэрт-спектакль
16 — Я. Купала "Адвечная песня"
17 — Э. Сагалаў "Палёты з анёлам"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

### Тэатр юнага гледача

10 (16.00) — "Каліф-башмачнік"
11 (11.00, 14.00) — "Каліф-башмачнік"
12 (11.00, 14.00) — "Рыцар ордэна Сонца"
12 (вечар) — "Пад коламі кахання", фантастычнае танцавальнае шоу (прэм'ера)

### Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр

***вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62***

12 — А. Астроўскі "Позняе каханне"
10 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
11, 16 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера).
14 — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры"
15 — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"
17 — Б. Шоу "Пігмаліён"
Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

### Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч"

***(касцёл св. Сымона і св. Алены, пл. Незалежнасці, 15, тэл. 220-56-32)***

13 — Я. Янішчыц "Прыпадаю да нябёс...", паэтычны монаспектакль, выканаўца — заслужаная артыстка Беларусі Л. Горцава
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага

***вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66***

10 — А. Дудараў "У прыцемках"
11 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
12 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
14 — Д. Марота, Б. Рандоне "Суцяшальнік удоў" (прэм'ера)
15 — М. Горкі (нью) "Дзівакі"
16 — "Тата, тата, бедны тата..."
17 — Я. Купала "Раскіданае гняздо"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Купалы

***вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17***

10 — Р. Горын "Памінальная малітва"
11 — А. Дудараў "Кім"
13 — А. Дзялендзік "Смак яблыка"
14 — У. Шэкспір "Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета"
15, 16 — Я. Стэльмах "Каханне ў стылі барока"
17 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж"
18 — А. Курэйчык "Згублены рай"

### Малая сцэна

11 — І. Бергман "Восеньская саната"
13 — С. Кавалёў "Саламея"
17 — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

### Тэатр-студыя кінаакцёра

***пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11***

10, 11, 12 — С. Бартохава "Востраў нашай любові і надзеі"
16, 17 — Э. Сагалаў "Айседора. Танец кахання"
18, 19 — Б. Шоу "Пігмаліён"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

## У СТАЛІЦЫ

### ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ

**пр. Ф. Скарыны, 44а тэл. 284-44-33, 284-47-09**





**10 — Творчы вечар** заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, выкладчыка Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. Глінкі Анатоля КАЛАНДЗЁНКА (флейта).

**13 — Вакальная і арганная музыка:** Тамара РЭМЕЗ (сапрана), Ксенія ПАГАРЭЛАЯ (арган). Творы Баха, Шуберта, Даніцэці, Гендэля, Грыга.

**НА ЗДЫМКУ: ансамбль "Brevis" — удзельнік вечарыны 10 кастрычніка.**

***ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА***

## ЦЫТАТА АФІШЫ

**Генеральны дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм" Вячаслаў Шанько пра фільм "Анастасія Слуцкая": "Я хацеў бы, каб мы не забывалі пра тое, што дарогу гэтай карціне дала першая асоба рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. Калі ён упершыню прачытаў сцэнарый, ён напісаў: "Я — за!" Адсюль і пайшоў, можа быць, поспех карціны..."**

**"Насту — у кожны дом?" "БГ", 29 верасня 2003 г.**

***На здымку: В. ШАНЬКО***
***ФОТА Г. ЖЫНКОВА***



## КІНА WEEKEND

# ПРЫВІД У АКІЯНЕ

Можаце ўявіць сабе, што атрымаецца, калі ваенную драму з жыцця падводнікаў перамяшаць з містычнай казкай аб прывідах? Атрымаецца амерыканскі трылер "ГЛЫБІНЯ", прысвечаны падводнай вайне ў Атлантыцы ў 1943-м.

Зробленая на неблагім прафесійным узроўні, "ГЛЫБІНЯ" тым не менш засмучае прастадінейнымі сюжэтнымі хадамі. На працягу дзвюх гадзін экраннага часу высвятляецца, што амерыканская падлодка памылкова патапіла брытанскі карабель-шпіталь. Калі недарэчнасць робіцца зразумелай, дык лейтэнант падлоткі (яго іграе Брюс Грынвуд), каб пазьбегнуць адказнасці, топіць капітана, займаючы яго месца. Але сумленне не дае яму спакою, тым больш, што ўвесь час перад вачыма круціцца фізіяномія нябожчыка. Духу капітана стала крыўдна, што ён пайшоў на акіянскае дно, а яго падлодка — не. Вось і выпраўляе ён гэтую памылку — падстаўляе лодку пад бомбы і тралы фашысцкага эсмінца, змяняе курс і, нарэшце, атручвае амаль усю каманду вадародам.

Вядома, за выключэннем парачкі прыстойных герояў. Іх падбірае брытанскі карабель, а падлодка ляжыцца на дно побач з патопленым ёю шпіталем.

Галоўныя героі, падсумоўваючы тое, што з імі здарылася, прыходзяць да высновы, што нічога не разумеюць. Амаль тое ж адчувае і глядач — які сэнс ва ўсім тым, што адбывалася на экране?

Калісьці знакаміты рэжысёр Мілаш Форман казаў у інтэрв'ю: галоўная праблема Галівуда ў тым, што на пастаноўку сцэнарыя, які каштуе пяць долараў, марнуюцца пяцьдзесят мільёнаў долараў. На якасці фільма і ўражанні гледачоў усё роўна адаб'ецца пяцідоларавая драматургія. Кошт драматургіі "ГЛЫБІНІ" — долараў шэсць-сем. Узровень карціны і ўражанні ад яе прагляду — адпаведныя.

**Ягор КОНЕЎ**

**Кінатэатр "Камсамолец", 10—12 кастрычніка (15.00, 17.00, 19.00, 20.40).**




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 8.10.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3759
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12